ББК 84Бел7
П 85

Сложный и трудный жизненный путь прошел лирический герой стихотворений Павла Прудникова. Он породнился с многими уголками нашей страны, но больше всего любит землю своих предков — Могилевщину.

В автобиографической поэме «Таймыр» рассказывается о жестокой несправедливости сталинских репрессий, о тяжелых условиях жизни заключенных.

Поэма «Запоздалое просветление» посвящена борьбе за трезвость и здоровый быт.

П $\frac{4702120202-043}{М\ 302(03)-90}$ 58—90

ISBN 5-340-00472-4



*Маёй неразлучнай*
*спадарожніцы і дарадчыцы,*
*жонцы*
*Ганне Паўлаўне*
*Прудніковай*
*прысвячаю*



## НА КЛІМАЎШЧЫНЕ

Тут знаёма мне кожная сцежка,
Кожны кусцік і кожны ручай,
Друг-Асцёр сустракае з усмешкай,
І ад радасці гусі крычаць.

Волат-дуб галавой мне ківае,
Клічуць зноў да сябе курганы.
А дуброва галлём абдымае
На узмежку палёў аржаных.

Тут усім я і родны, і блізкі,
Як прысаднага дрэва лісток.
Яшчэ раз пакланюся я нізка,
Бо яны
мой пачатак, выток.

## НЕСТАРЭЮЧАЯ МАЛАДОСЦЬ

**Да 1000-гадовага юбілею вёскі Стары Дзедзін**

Ты стаіш над ракой пасівелы, як лунь,
Нібы дуб-велікан пасля буры,
Быццам хочаш рвануцца наперад угрунь,
Як герой з былі-казкі бабулі.

Нават тысяча год не сагнула цябе,
Не скарыла прад цемрай-галечай.
Ты штодзень загартоўваў сябе ў барацьбе,
Распраўляў свае гордыя плечы.

Дзень і ноч працаваў, як ніхто і нідзе,
Каб застацца жывым,
не памерці.
Ты пабачыў нямала суровых падзей,
Перажыў не адно ліхалецце.

Неаднойчы за горла хапалі паны
І нашчадкі імперскага трона...
Не, не слалі табе ўладары дываны —
Насылалі, як смерч, эскадроны.

Ўсё яно адплыло у нябыт!..
Засталося легендаю, казкай.
І прыйшоў да цябе твой сапраўдны зеніт
З непаўторным вясёлкавым бляскам.

Ты, як віцязь, стаіш на ўзбярэжжы Астра
З маладою, юнацкай усмешкай,
Пільна слухаеш гоман і хваляў, і траў,
І птушыны канцэрт на узлеску.



На палях каласіцца, шуміць збажына,
А ў садах чырванеюцца вішні.
Маладосць твая зноў, як калісь, ажыла,
Расцвіла забуяла увішна!

Жыць і жыць табе, дружа,
ў суквецці гадоў
Працавітым, вясёлым і дбайным,
Асвяжацца на золку асцёрскай вадой,
Адкрываць нам, сябрам, свае тайны!

## ДАВАЙЦЕ Ж УСПОМНІМ...

*Былым сябрам-слабодкаўцам*

Не ўсім тут фартуна служыла,
Не ўсім было ўдосталь салодка.
Але ж нас навечна зрадніла
Звычайная вёска Слабодка.

Былі тут і радасць, і смутак,
Узлёты, крутыя падзенні...
Ды толькі не знаді мы смуты —
Мы сеялі дружбы насенне.

Па-брацку у непагадзь, спёку,
Як некалі прашчуры-продкі,
Мы з кожным настойлівым крокам
Будзілі ад цемры Слабодку.

Мы дружбы сваёй не таілі,
Сябе ад людзей не хавалі.
Нас летнія ночы тамілі,
Лізалі азёрныя хвалі.

Калі ж туманы навісалі
Над Недравам і над Ільмёнкам [1],
Мы ў сховішчы кніг залязалі,
Здымалі з іх спелыя гронкі,

А зімняй парой —
семінары,
Штудзіравалі Гегеля, Канта.

---

[1] Недрава, Ільмёнак — азёры ў раёне вёскі Слабодкі, што на Браслаўшчыне.



Былі там і роздум, і мары,
І спрэчкі ліхія, і жарты.

І часам сядзелі ў застоллі
За куфлем піва, за чаркай.
Было усяму там раздолле,
Ды толькі ніякае сваркі.

Было —
ля кастра «загаралі»
У летнія ціхія ночы.
У марах пад небам луналі
Ад песень вясёлых дзявочых.

Шумелі азёрныя хвалі,
Як быццам гуляла паводка.
І кроўнай для нас тады стала
Азёрная вёска Слабодка.

Давайце ж яшчэ раз успомнім
Усё, што тады нас яднала.
Хай сведкаю будзе тут поўня,
Што ў ноч гэту свеціць над намі!

## ДЗЯЎЧАТЫ НА ДЗЯВОЧАЙ ГАРЫ

У Мсціслаўлі старажытным
Ёсць Дзявочая гара.
На грудзях яе абжытых
Кветкі знічкамі гарацъ.

Паважаюць гараджане
Помнік даўнасці сівой.
У пашане гэта «пані»
Цёплым летам і зімой.

Палюбілася дзяўчатам
Сведка даўніх, бурных год.
Нібы ластавак крылатых,
Што збіраюцца ў палёт,

Кліча добрая сяброўка
На вяршыню, да нябёс,
З іх гамонкай гучнай, звонкай
Пець пра свой дзявочы лёс.

І як толькі надвячоркам
Абаўе гару туман,
Тут як тут дзяўчаты-зоркі —
Топчуць траў густых дыван.

Заспяваюць —
паліюцца
Гукі песень над Віхрой
І са звонам панясуцца,
Нібы той пчаліны рой.



А як тупнуць пад гармонік —
Наваколле зменіць твар.
...Так штодзень гара гамоніць —
Гэты кут дзявочых мар.

Кут, што бачыў ханаў, карлаў,
Езуітаўскі хамут,
Банапартаў, і ягайлаў,
І фашысцкую чуму.

...Казкай, песняю чароўнай
Усміхаецца гара.
Ёй нідзе не знойдзеш роўні!
На грудзях сяброўкі кроўнай
Можна марыць, загараць.

Можна ўдосталь весяліцца
На загадкавым бугры,
Над празрыстаю крыніцай
Непаўторнае Віхры!

## ІСЛАЧ

Як тут ціха, хараша, натхнёна
Сярод стройных сосен-маладух!
За будзённай працаю штодзённай
Ты заўжды мне падымаеш дух.

Стужкаю віешся ля пагорка,
Міма дрэў, іх засені густой
І мне свеціш непагаснай зоркай.
Я — нявольнік і прыхільнік твой.

Па-сяброўску шчыра абдымаю
Тваю постаць і тваю касу.
Добры дзень, заўсёды маладая!
Да цябе не раз я завітаю
І не раз у сэрцы пранясу.



## СУСТРЭЧА З БРАТАМ

Мы сустрэліся зноў праз дзесяткі гадоў
На ўзбярэжжы,
ды толькі не Неўскім [1].
Па-над Проняй,
у брацкай магіле твой «дом» —
На сасновым, карчатым узлеску.

Побач вёска Прудок, што прытулкам была
Пасля цяжкага, страшнага бою.
Навальнічная хмара няўмольна плыла...
А цяпер —
цішыня над табою.

Ураган той даўно адгрымеў і заціх,
Толькі птушкі на дрэвах шчабечуць.
Тут шэсцьсот пяцьдзесят пабрацімаў тваіх
Днём і ноччу з табой на сустрэчах.

Ціха шэпчуць бярозкі лістотай густой,
Што сялібу тваю акружаюць.
Памяць наша аб тых,
хто не стане ўжо ў строй,
Застанецца ў вяках на скрыжалях.

Я размову вяду,
толькі не, не з табой,
А з тваёй мармуроваю плітай.

---

[1] Апошнія нашы сустрэчы з братам Хведарам адбываліся ў горадзе на Няве — у Ленінградзе.

Раскажы ж, як ішоў ты ў апошні свой бой.
Колькі палкай крыві там праліта?

Колькі вас палягло ў тым крамешным агні
На парытым снарадамі полі?
Колькі траў патаптана ў нянасныя дні?
Колькі зведаў пакутаў і болю?

Што ж, браточак, маўчыш?
Ці крыўдуеш за што?
Я ж заўсёды табе быў аддданы.
Твая страшная смерць паміж гэтых кустоў
Для мяне —
незажыўшая рана.

Без цябе я, што птушка у небе без крыл,
Што пажоўклы лісток без галінак.
Быццам хтось ад мяне раптам
сонца закрыў
І ў душу залез горкай калінай...

Больш за сорак гадоў я ішоў да цябе,
Быў у пошуках гэтай «сялібы».
Супакоіўся трошкі вось толькі цяпер,
Быццам з сэрца скацілася глыба.

Зноў сустрэнемся, веру, з табою не раз,
Пакуль будуць насіць мяне ногі.
Не ўтрымае мяне пасівелы мой час,
Бо сказаць табе трэба мне многа.

А пакуль я скажу табе толькі аб тым,
Што усіх нас сягоння хвалюе:
Мы не хочам, каб зноў той уедлівы дым
Нам прынёс на зямлю «алілуе».



Хопіць з нас і крыві,
і маўклівых магіл,
Нам, жывым, трэба мірнае неба.
І мы робім усё, не шкадуючы сіл,
Каб зямля пахла кветкамі,
хлебам!

## КРОКІ ВЯСНЫ

Першы дождж і першыя праталіны,
Першы крык птушыны пад акном.
Зноў прыйшлі вясновыя баталіі,
Дзе галоўны маршал —
першы гром.

Вунь шпачок жанглюе каля «доміка» —
Рамантуе летняе жыллё.
У яго свая тут «эканоміка»,
Ад вачэй закрытая галлём.

Белы бусел пад сцяною туліцца,
Падаюць свой голас і гракі.
Шумна стала ў лесе, як на вуліцы,
Як на пляжы ўлетку, ля ракі.

Хай пакуль што дрэвы і аголены,
А ўжо ўсюды дыхае жыццём.
Толькі я сяджу вось як зняволены,
Часам упадаю ў забыццё.

Я гляджу праз шыбу, заварожаны
Радасцю дзівоснае пары.
Ды вось раптам нешта растрывожыла
Мяне ў гэтым казачным бары...



## ЗАПЯВАЛЫ

Прыляцелі шпакі-запявалы,
На вярбе адшукалі свой «дом».
Дзе б яны ні былі, ні лcraталі,
А вярнуліся ў тое ж гняздо.

Не паспелі абжыцца —
запелі
Прывітальную песню вясне.
Я на золку падняўся з пасцелі,
Думаў, бачу ўсё гэта ўва сне.

Так і мы,
куды б лёс ні заносіў,
Зноў вяртаемся ў «гнёзды» свае.
Хай вясна гэта будзе ці восень,
Пачынаем душою звінець.

### * * *

Шмат радкоў і цэлых вершаў
Пра вясну я наскладаў.
І, канечне, я не першы
Быў з красуняю ў ладах.

Думаў: «Ну, пастаўлю кропку,
Хопіць пецъ пра капяжы!
Спакваля і нетаропка
З новай тэмай буду жыць».

А як птушкі заспявалі
І бярозавік пацёк,
Дык паклікалі зноў далі,
Ад якіх я ўжо не ўцёк.

Сок бярозавы з дзяцінства
Да сябе мяне цягнуў.
І забыць яго —
злачынства,
Як і ўсю сваю вясну.

І я зноў заграў на струнах
Незабыўнае пары.
Я цымбалы ёй змайструю
За цудоўныя дары!



## РАЗВІТАЛЬНЫ ГОЛАС

Трывожна гняды заірзаў,
Не ў лузе —
на МАЗе магутным.
Па поўсці пабегла сляза
З вачэй затуманеных, мутных.

На конюха ён паглядзеў
З дакорам і нейкаю крыўдай...
Ён зла не рабіў для людзей,
Дарэмна па полі не лындаў.

Ён хоча ўсю праўду сказаць
Нячутнаю мовай конскай
Таму, хто за борт прывязаў
Яго —
бездакорнага коську:

«Я поле з табою араў,
Вазіў непасільныя грузы,
Пад сонцам адным загараў
І стыў на марозе ад сцюжы.

Ты пугай падчас «частаваў»
Мяне за маю бездакорнасць.
А я табе ўсё даравяў
За клопат, мінутую вольнасць.

Аўсом ты мяне не карміў,
А сена падкідваў удосталь.
Крынічнай вадою паіў,
Вадзіў на зарэчную ростань.

Бывала, ты сядзеш вярхом,
Схапіўшыся моцна за грыву,
І мчышся, нібы ад грахоў,
Праз далі і ветру парывы!

А сёння ты, як скамянеў,
Мо цесна са мной на прасторах?
Навошта ж загнаў ты мяне
У гэтую скрыню з маторам?

Я вам бы яшчэ паслужыў:
Узворваў калгасныя соткі,
Цягаў бы з дубровы кражы
Для фермаў і пасек салодкіх.

Не давяць мяне шчэ гады,
І вырас на гэтым вось месцы.
Я ў росквіце сіл,
малады!
Куды ж вы надумалі везці?»

Падумаў і зноў заірзаў,
Убачыўшы сябра па плугу.
Бліснула на твары сляза...
А гукі ляцелі над лугам!..

Нядобрае чула душа...
Не скажа, а ўсё разумее.
Трывога, пакуты і жах
Залазілі ў сэрца, як змеі.

А самай мацнейшай была
Ад крыўды балючая рана.
Яна да знямогі вяла,
Грымела ў душы ураганам.



Дрыжаў і палаў, як агонь,
Развітваўся ціха з калгасам...
...І быў ужо гэта не конь —
Ахвяра бяздушша і часу.

## МАТРУНА

Ты скажы, скажы, Матруна —
Родная сястра,
Дзе твой голас, тыя струны,
Вочы —
сінь Астра?

Дзе дзявочая паходка
І жаночы спрыт?
Мо жылося несалодка
Ў самы твой зеніт?

Знаю —
ў плузе ты хадзіла,
Будавала дом,
Секла дровы і касіла —
Бегала бягом.

Колькі грузу пранясла ты
На сваіх плячах!
Тылавым была салдатам,
Прала па начах.

Ваявала і з быкамі
(Ўзяў бы іх лясун!)
І нястомнымі рукамі
Жала паласу.

А пасля з касой старэнькай
Рушыла на луг
Разам з дочачкай маленькай,
Аж займаўся дух.



Не палохалі ні далі,
Ні дрыгва балот.
Ногі цыпкі раз'ядалі,
Ліўся градам пот.

Зарабляла працадні ты —
Голыя калы.
Колькі жыта-пражыта!
Гора —
твой калым.

І цяпер на мужным твары
Быццам вырас мох.
Гэта лёс цябе састарыў,
Здужаў, перамог.

Я гляджу на твае рукі —
Скрозь у мазалях,—
Іх паскручвала у муках...
Бачу, што баляць.

Ды і ногі, нібы ў путах,
Крок —
і перадых.
І сама ў дугу сагнута
Ў сталыя гады.

Ціск замучыў да знямогі,
Але ты маўчыш.
Відаць, гора знала многа
У жыцці-начы.

Чым ты зараз знакаміта,
Ціхая душа?
Кім, скажы ты, не забыта?
Скуль узяўся жах?

Ты цяпер не жнеш больш жыта,
Не пілуеш дроў.
Ўсё пражыта, перажыта
Над ракой Астром.

...Эх, Матруны-небаракі,
Колькі іх такіх!
Я не раз душою плакаў,
Гледзячы на іх.

## ПОЗНІЯ ЯГАДЫ

Не суніцы бяру, не чарніцы,
Між кустоў не шукаю ажын.
Я ўжо ў кошык збіраю брусніцы
І чакаю пары журавін.

Пазнікалі парэчка, маліна,
Нават сініх дурніц не відаць.
Застаюцца адны журавіны.
Трэба з імі цяпер сябраваць.

Ды шкада вось —
балот ужо мала,
Што даюць белабокім жыццё.
Журавіны для нас цяпер —
мара,
Мы да іх як на споведзь ідзём.

Не цурайся, мой друг, позніх ягад:
Дораць нам яны свой эліксір,
Здольны заўжды прагнаць нашу смагу
І прыносіць здароўя і сіл.

## САЛДАТ ЧАСУ

*Памяці Міколы Хведаровіча*

Ты — салдат незвычайнага часу,
Ты — вандроўнік нялёгкіх дарог.
Цябе неслі праз пекла пегасы,
Праз віры і міражны мурог!..

Ты ж усюды быў першапраходцам:
На Парнасе, ў суровай тайзе...
Для зайздроснікаў —
косткай у глотцы,
Для сяброў —
прамянём у смузе.

Не ляжаў ты бяздумна на пляжы
І не гойсаў анёлам без мар.
Праз жыццё нёс цяжкую паклажу
Пад страхою і сонца, і хмар.

Тваіх думак і песень узлёты
Саграваlі сваёй цеплынёй.
Ты быў нашым адважным пілотам,
Шчырым сябрам, надзейнай бранёй.

Тыя зерні, што сеяў паўвека,
Каласяцца цяпер збажыной.
Ты застаўся для нас Чалавекам,
Нашай радасцю светлай —
зямной!



## ГІНУЦЬ ДРЭВЫ

Гінуць дрэвы у хваёвым парку
Цэлымі дзесяткамі штогод.
Іх адвозяць восенню на звалку,
Ледзь на рэчцы блісне першы лёд.

Шкода, шкода прыгажунь-сасонак...
Незайздросна скончылі свой век.
Ледзь яны пабачылі свой золак,
Як пачаў іх нішчыць чалавек.

Атруціў іх дымам-перагарам,
Заглушыў грымотаю машын.
Так прыйшоў канец жыццю і марам
Светлай, абяздоленай душы.

А яны ж паілі нас азонам,
Шэптам суцяшалі ў час нягод,
Месцам былі роздуму і домам
І давалі радасць круглы год.

І вось мы за ўсё ім заплацілі:
За іх шчодрасць, ласку, дабрыню.
Па-вандальску душы ім скруцілі,
Нібы ногі спрытнаму каню.

Хто, сябры, з вас чуў,
як дрэвы плачуць
І ад болю стогнуць уначы?
Мы сябе павінны перайначыць
Так, каб іх ад смерці зберагчы.

## ПЕСНЯ

Песня,
ты — мая уцеха,
Мая мара і зямная быль.
Я люблю, калі співаюць П'еха,
Шутава, Пархоменка і Хіль.

Я душой заўсёды з «Песнярамі»,
У палон бяруць і «Верасы».
Дзе б ні быў —
за лесам ці гарамі —
Чую сэрцам іх я галасы.

А як грымне громам Магамаеў
Ці Ратару з сілаю агню,
Я тады пад небам залунаю
І лічу вясёлку за радню.

Колькі іх і добрых, і цудоўных
Спевакоў і песень на Зямлі!
Нам яны і радасць, і нястомнасць,
Цеплыню сардэчную далі.

Мы ад іх дабрэем, прыгажэем
І мякчэем сэрцам і душой.
Мы ад іх сталеем і мудрэем...
Я жыццё ўсё з песняю прайшоў!



## НАШ ШЛЯХ

У жыцці сваім бачылі многа мы,
Нас не песціў падманлівы лёс.
Мы ішлі франтавымі дарогамі
Праз агонь, завіруху, мароз.

Штурмавалі ў семнаццатым Зімні мы,
Дваццаць першы нам голад прынёс.
У трыццатым пад спёкай і ліўнямі
Пачыналі мы новы свой крос.

Трыццаць сёмы быў горкай калінаю,
Сорак першы пад корань касіў...
Але ж літасці, дужасці львінае
Не збіраліся ў бога прасіць.

Як змаглі, пазбаўляліся самі мы
Ад чужых і сваіх гнайнікоў!
І рукамі вось гэтымі самымі
Вызвалялі сябе ад акоў!

Не, нас лёс не гайдаў і не балаваў,
Ён выкручваў нас, крэмсаў і цёр!..
Мы пад штормы дванаццацібальныя,
Як маглі, будавалі жыццё.

## «ПЕРАБУДОЎШЧЫК»

Біў калісь ты ў грудзі кулакамі:
— Я з народа выйшаў, патрыёт!
А трымаў за пазухаю камень,
Зычыў добрым людзям эшафот.

Ты знішчаў сады і канюшыну,
Кукурузай лупцаваў сяброў
І лічыў сябе «дастойным сынам»
Тых, хто ліў за нас святую кроў.

Асушаў ты рэкі і балоты —
Рабаваў прыроду спаквалю.
Гаварыў:
— Зазяе пазалотай
Збажына на знойдзеных палях!

Дыфірамбы пеў ты і жывіцы —
Той крыві, што высмактаў з сасны.
І не даў тым ранам загаіцца,
Як зароў ты голасна, услых:

— Хто дазволіў лес губіць і рэкі?
Хто збядніў зарэчныя лугі?
Бо яны ж служылі чалавеку,
З імі мы не ведалі тугі.

А цяпер крычыш:
— Перабудова!
Дайце слова, не магу маўчаць!
Мы павінны як адзін, вядома,
Гэту справу ў тэрмін распачаць.



Вось які ты ёсць перабудоўшчык:
Куды дзьмухне вецер —
там і ты.
І крычыш адкрыта на ўсю плошчу
Аб сумленні аж да хрыпаты.

2 Зак. 2813

* * *

Адступаць не хочуць бюракраты,
Не здаюць пазіцый, хоць забі.
Прадаўжаюць жыць і казнакрады
І «Айчыну горача любіць».

Іх усіх яднаюць цені культу
І застою цёмнага, як ноч.
Селі нам на плечы яны гуртам.
Груз такі нам больш не павалоч.

Мы павінны скінуць яго ў прорву —
Развітацца з брудам назаўжды!
А інакш ён схопіць нас за горла...
І тады —
паўкроку да бяды.

# МІНУТЫ РОЗДУМУ І ПАМЯЦІ СУРОВАЙ



* * *

Нешта сны трывожныя мне сняцца,
Неспакойна штосьці на душы.
Мо таму, што мне цяпер не дваццаць?
Час агеньчык сэрца патушыў?

Што гарэла, раптам дагарэла,
Толькі попел кружыцца вакол!..
Я цяпер, як схімнік састарэлы,
Свет капчу затраўленым ваўком.

Час ад часу цягне да пасцелі.
А было ж — не паднасі хамут!
Падазрона дыхаю, пацею.
Не гарыць — капціць сардэчны трут.

Значыць, гэта блізіцца ўжо фініш,
Давядзецца «аддаваць канцы»...
Дык жыві, пакуль шчэ ты не гінеш,
Стой на вахце, як стаяць байцы.

Ты на фронце, толькі на іншым,
Дзе страшней за куль абоймы слоў.
Ведай, што ад спраў нястомных нашых
Не адно зярнятка прарасло.

Ты суцішся —
перастануць сніцца
Сны трывог і жахаў незямных,
Над зямлёю паляціш сініцай,
На зямлі ж —
на конях вараных!

## СОСНЫ

Сосны, сосны, стромкія спрадвеку,
Па-дзявочы стройныя вакол.
Вы мне сёння —
і суддзя, і лекар,
І душы пакрыўджанай закон.

Я сяджу надломаны і хворы
І гляджу на вашу прыгажосць.
Дружна вы спяваеце мне хорам.
Штось у нас агульнае тут ёсць.

Як і вы, люблю я незалежнасць
Са свабодай сэрцу дарагой.
Як і вы, люблю зямлі бязмежжа
І у небе сінь без берагоў.

Сёння ж вы мне асабліва блізкі
У мой цяжкі, задуменны час.
Зноў і зноў схіляюся я нізка
Перад вамі,
абдымаю вас.



* * *

Час нас лечыць, час нас і калечыць,
Што не кожны здольны зразумець.
Знікне ранак, надыходзіць вечар.
Блякне раптам сонечная медзь.

Луг цвіце, і дрэвы пладаносяць,
І над грэчкай кружацца раі.
А ў душу залазіць ужо восень...
І ты зноў —
у пекле, не ў раі.

Ты здаешся парасткам зялёным,
А на справе —
састарэлы дзед.
Час-цягнік праносіцца шалёна,
Застаецца толькі дымны след!..

Хоць жыццё й частуе міражамі
І бывае часам песціць нас,
Больш часцей нас абдымае замець
І прыносіць тысячы абраз.

Час бывае добры і каварны,
Паспрабуй вось разабрацца тут.
Трэба нам старацца жыць не марна,
Не чакаць назойлівых пакут!

* * *

Ёсць і ўвосень сонечныя дні
Без дажджу, без ветру і без суму,
Калі дрэў лістота, як агні,
Нараджае светлыя ў нас думы.

Лес тады здаецца маладым,
Не падобным на тужлівы прыцемк.
Дуб стары ад шчасця, пекнаты
Уяўляе сябе юным прынцам.

Я жадаю восені такой,
Хай сабе някідкай і нягладкай.
Мне не завадзь трэба, не спакой,
Не экспрэс з ялейнаю пасадкай.

Я б хацеў дажыць да скону дзён
Без дажджу, без слоты і без стыні,
І каб сцежкі, па якіх ідзём,
Нас вялі ў аазіс —
не ў пустыню.

А агні і буры — мне браты,
Я з дзяцінства парадніўся з імі.
Па дарогах звілістых, крутых
Я па іх пратупаў пілігрымам.

Блаславаўляю восеньскую даль
Без дажджоў —
з асенняй пазалотай!

Хай жа знікне смутак у гадах
Разам з крыўдай і жыццёвай слотай!



* * *

І адкуль узяўся век закляты,
Што сячэ, як кажуць, з-за пляча.
Кураць хлопцы, кураць і дзяўчаты.
П'юць, кахаюць прама на вачах.

Паспрабуй асмеліцца заўважыць —
На цябе абразы паляцяць.
Без павагі, сораму адкажуць:
— Ты адстаў, дзядуля, ад жыцця.

А ці, можа, зайздрасць заядае?
Адыдзі! І нам не замінай!
Усміхнешся, а душа рыдае...
Прыгадаеш свой далёкі май.

Хто не ведаў паласы юнацтва,
Хто не рваў пралесак з той пары!
Ды не кожны знаўся з верхаглядствам
І нядобрых слоў не гаварыў.

Мы былі саромлівымі ўсюды
І сумленне свята берaглі,
Асуджалі, ганьбілі заблудаў,
Смецце вымяталі як маглі.

Я агулам зняслаўляць не буду
Ні дзяўчат, ні хлопцаў-дзецюкоў,
Ды маўчаць не стану перад блудам,
Што паганяць добрых юнакоў.

* * *

Лёс не зычыў мне шчасця зямнога,
Не бярог і ад брыдкіх абраз.
Я не крыўдзіў ніколі нікога,
Сам жа бітым быў, нават не раз.

Пэўна, свет збудаваны ўжо гэтак:
Адны едуць, другія вязуць.
Для адных —
вечна цёплае лета,
Для другіх жа —
асенняя муць...



* * *

Як абрыдлі вы мне, прайдзісветы!
Немагчыма ад вас уцячы.
І «вучоныя» вы, і «паэты»,
І «палітыкі», і «урачы».

Колькі вас развялося на свеце!
Атруцілі, спрытнюгі, жыццё.
Быццам вас паразвеяў скрозь вецер
І узброіў калючым асцём.

Невядома, куды ад вас дзецца?
Пэўна, знойдзеце і пад зямлёй.
Вас цураюцца нават і дзеці
За няхітрай сваёю гульнёй.

Дзе б знайсці такі сродак нам зручны,
Які б змог нас пазбавіць ад вас?
Мабыць, злосць з дабратой неразлучны?
Хай рассудзяць тут людзі і час.

* * *

З кожным днём я сівею, бялею
На парозе трывожнай пары.
Адзначаюць свае юбілеі
Аднагодкі мае —
песняры.

Пры жыцці сабе помнікі ставяць,
Услаўляюць СЯБЕ і народ,
Праклінаюць інфаркты і старасць
І чакаюць штодня ўзнагарод.

А вось мне нічагуткі не трэба —
Ні значкоў, ні пахвальных прамоў.
Я шчаслівы пад родным мне небам,
Задаволен кавалачкам хлеба
І што зноў я вярнуўся дамоў.



## ЮБІЛЕЙНАЕ

Што як мог, сказаў я людзям,
Думак не таіў.
Можа, хто цяпер асудзіць?
Я ўжо не ў страі.

Перажытае забыта —
Знікла ў небыццё!..
Недапітае дапіта,
Як само жыццё.

Мне б цяпер ляжаць на печы
(Непакоіць «соль»),
Грэць сярэдзіну і плечы
І глядзець у столь.

Толькі, мабыць, яшчэ рана,
Пэўна, не ўляжу,
Бо пякуць зямныя раны
Сэрца і душу.

Можа, зноў раскіну крылы —
Паімчуся ўвысь!..
Дрэвы кронамі накрыюць
Зноўку, як калісь.

Знікнуць сум,
расчараванне,
Прыкрая туга.
Стрэне сонечнае ранне
З песняй на лугах!

## ШТО ТАКОЕ «КРЫЖЫ»?

**Размова з маладым сябрам**

Ці вядома табе, што такое «Крыжы»
З такой хітраю іх забудовай?
Дзень цалюткі сядзі,
ноччу моўчкі ляжы.

Загаворыш —
палічуць за змову.

Два вялізных крыжы, як браты-блізнюкі,
Узвядзёныя з цэглы чырвонай,
Што стаяць ля славутай ракі,
Славай нашых бацькоў адаронай.

Глянеш збоку —
фабрычных цахоў карпусы,
Толькі краты на вокнах падводзяць.
Ды чуваць дзесь здалёк вартавых галасы,
Нібы ў шторм на марскім параходзе.

Гэта фабрыка жахаў, калецтваў, пакут,
«Прадпрыемства» душэўных надломаў.
Гэта месца абразы, знявагі і пут,
Гэта дом навальнічнага грому.

Сотні камер-«мяшкоў» бачыш,
быццам праз сон,
Што ляглі на чатыры паверхі
Ўсіх васьмі рукавоў двух крыжоў-карпусоў.
Там садом і гамора, там вэрхал.
Ёсць там месцы-куткі для пакутаў і мук,
Для «прызнанняў» пад «ветлівасць» следчых.



Там няма аднаго —
акрываўленых рук,
Што тапор апускаюць на плечы.

Эшафота і плахі таксама няма,
Ёсць затое хітрэйшае штосьці...
Разважай колькі хочаш —
турма ёсць турма,
Не да цешчы ідуць туды ў госці.

Хто пабыў там хоць дзень,
ён запомніць навек
І «Крыжы»-міражы, і «Шпалерку»[1].
Нарабіў «мышаловак» сабе чалавек
Для патрэбы звярынае нейкай.

Трыццаць сёмы мяне навучыў разумець
І «Крыжы», і жыццё ўсё навокал.
Хто там быў, дыфірамбаў не будзе ім пець,
Ён на ўсё паглядзіць іншым вокам.

Разумееш цяпер, што такое «Крыжы» —
Ленінградскія нашы Бутыркі?
Ад «пенатаў» такіх ты сябе беражы:
Могуць стаць у жыцці тваім дзіркай.

---

[1] «Крыжы» («Кресты»), «Шпалерка» — турмы ў Ленінградзе.

## ПАМЯЦЬ

Кліча зноў мяне ў госці тайга,
Клічуць тундра і мёртвыя сопкі.
Па сябрах заядае туга...
Пэўна, рана шчэ ставіць тут кропку.

Дзе яны, з кім марнеў, замярзаў,
З кім дзяліўся апошнім кавалкам,
З кім сплятала ў тайзе дзераза,
З кім вітаўся заўжды на світанку?

Дзе яны?
Хто адкажа цяпер —
На зямлі ці ў зямлі спачываюць?
Кожны цалкам сваё адцярпеў...
Аб іх памяць лунае жывая.

Не забыліся мне буданы,
І зямлянкі, і гора-палаткі.
Паміж тундры і скал ледзяных
Не жылося нам весела, гладка.

Так было, што заные душа
Па пралесках, бярозках і вішнях...
Сам сябе ты пачнеш суцяшаць,
Каб не думаць, што ты ўжо тут лішні.

Адышло яно ўсё у нябыт!..
Сорак год жа —
не дзень і не тыдзень.
Развітаўся са мной мой зеніт,



Знаю —
больш ён ніколі не прыйдзе...

Толькі памяць ніяк не зарыць,
Непахісна яна ў любых схватках.
Нас не стане —
яна будзе жыць
Як жывая у сэрцах нашчадкаў!

## СЕЛЕНГА

Прыгадалася мне Селенга
Са скалістым яе узбярэжжам.
Новай трасы там шлях пралягаў
Міма сопак, падобных на вежы.

Там я скалы, як дзяцел сасну,
Дзёўбаў ломам, кіркою звычайнай.
Там я ледзь назаўжды не заснуў
У знямозе тупой, у адчаі...

Селендум, Білютай і Джыда,
Што пад бокам славутае Кяхты,
Па чарзе запрашалі пад дах,
А часцей —
у «кандзеі»[1] пры вахтах.

Не забылася камбала-соль
І хвалёнай гарбушы атрута...
Адклікаецца даўні той боль,
Што тачыў нас бязлітасна, люта.

Селенга коціць воды свае
Без тугі, без турботы ніякай!..
І на баржах рачных, як раней,
Цягне гравій, драўніну і якаў[2].

---

[1] «Кандзеі» — штрафныя ізалятары ў лагерах зняволеных.
[2] Як — рагатая жывёла, падобная на карову, але з конскім хвастом.



## ТАЙШЭТ

Вам вядома, што значыць Тайшэт
І адкуль яго гучная слава?
Пра яго ўжо пісаў нам паэт.
Песняры дываны яму слалі.

Тут жыццё пачыналі і БАМ,
І сталёвы маршрут да Кузбаса.
Можа, сотні гадоў ён праспаў
У чаканні жаданага часу.

Трыццаць сёмы яго разбудзіў
Гулам ГАЗаў, сякер і рыдлёвак.
Па тайзе там і я паблудзіў
З тапаром у бушлаце рублёвым.

Новай трасе патрэбен прастор,
Шлях свабодны ад дрэў і завалаў.
І мы з боем вярста за вярстой
Некрануты абсяг штурмавалі.

Гулка падалі піхта, кедрач
І лістоўніца —
лесу царыца.
Машкара заядала, хоць плач,
Ад яе немагчыма адбіцца.

А калі да прастораў рачных
Легла стужкаю чыстая траса,
На падводах і тачках ручных
Мы патрэбны узводзілі насып.

Так ішлі да самой Ангары,
Дзень і ноч не сціхала работа.
Падганялі машка, камары.
Працавалі да сёмага поту.

І настаў наш шчаслівы той дзень:
Леглі рэйкі, як струны, на насып.
Нам здавалася —
радасць ідзе!
Мы шапталіся з ёю сам-насам.

Толькі быў гэта проста міраж —
Мы ўпрагліся ў другія аглоблі.
Нас вязлі не да рэчкі на пляж
І не піць цудадзейныя кроплі.

Ад дрымучай тайгі —
прама ў бой,
Толькі ў тундру і з новаю трасай.
Дзень удзень пры пагодзе любой,
Як і там, мы узводзілі насып.

## ЕНІСЕЙСК

Прыстань, клуб, райсельмаг, каланча,
Рыбзавод, прамарцель, маслабойка,
Для байдарак і шлюпак прычал
Ды царква на высокім пагорку.

Вось такім у асеннюю стынь
Я сустрэўся з табой ў сорак першым.
Ты стаяў у тумане густым.
Я ішоў тады нехаця пеша.

Ты з далёкіх мінулых часоў
Быў заўжды перагрузачнай базай.
Груз сюды з Краснаярска ішоў
Ў суднах-баржах, падобных на МАЗы.

І яго перагружвалі тут
У магутныя баржы марскія,
Бо чакалі Дудзінка, Усць-Кут
І прадукты і рэчы людскія.

Аж да самых паўночных шырот —
Да Таймыра і Карскага мора —
Іх буксірам цягнуў параход
Паўз тайгу і бясконцыя горы.

Нібы сталь у вялізным катле,
Дзень і ноч тут кіпела работа.
Пры капцілках і дзённым святле
Людзі грузы цягалі пад потам.

Падганялі начальства і час,
Не давала марудзіць прырода:
Енісей мог пакрыцца ураз
Спрасаваным, напорыстым лёдам.

Пад мяшкі, скрыні, бэлькі, цюкі
Падстаўляў сваю спіну і я там
На вачах у магутнай ракі
Прама так —
без ніякае платы.

Ты і зараз амаль што такі —
Скрозь драўляны, маленькі і чысты.
Толькі кранаў партальных крукі
Упрыгожваюць горад і прыстань.

# Я ЎСПОМНІЎ ЧАС...

Гудзе зямля працяглым гучным гудам,
Гудуць наўсцяж самотна правады.
Я ўспомніў час.
Яго я не забуду
Ні ў дні трывог, ні ў светлыя гады.

Я ўспомніў час —
бязлітасны, суровы,
Для многіх з нас — пакут і забыцця.
Як быццам зноў тужлівыя удовы
Галосяць скрозь на могілках жыцця.

Як быццам зноў бяздомныя сіроты,
Куды ні глянь, на сметніках сядзяць.
Зямлю крывёй запэцканыя боты
І дзень і ноч абразліва слядзяць.

А ён, вусач, сядзіць на царскім троне,
Ківае пальцам з мінай мудраца.
Ўвесь свет яму —
разбураная Троя,
Дзе ён адзін —
і цар, і паліцай.

Ён бог зямлі.
Ён славай ап'янёны —
Агульны дзяк, хвалёны канібал —
Сажраў людзей не сотні, а мільёны!..
І ў рэшце рэшт раптоўна занядбаў...

Сустрэў яго той судны дзень расплаты,
Той гнеўны час за ўсе яго грахі.
Жыве зямля,
і мы — яе салдаты,
Пра што не дбаў занослівы рахіт.

...Прайшлі гады бясконцай цёмнай ночы,
Зацвіў, як сад, любімы сэрцу край!
А хтосьці зноў падняць з магілы хоча
Смуродны труп
і звезці яго ў рай.

Ды толькі не, дарэмны намаганні
Усіх спрытнюг, шакалаў-лізуноў.
Ні тайна змоў,
ні чорныя заданні
Не пахіснуць зямлі маёй сыноў!

## МЫ — САЛДАТЫ ЧАСУ

А. П.

Мы прайшлі праз пакуты і смерць,
Праз нягоды і Дантава пекла.
У смале давялося смылець...
На кавалкі нас ворагі секлі...

Кожны з нас быў у розных «кругах»
І знаў розных нягоднікаў-катаў.
Кожны зведаў пакуты і жах...
І заўжды заставаўся салдатам.

Толькі не, не асілілі нас
Ні вандалы і ні канібалы!
Той агонь не патух, не пагас,
Што запальвалі Колас, Купала.

Мы у марах да зорак ляцім,
Распраўляючы гордыя крылы,
І у будучынь смела глядзім,
Куды шлях нам Радзіма адкрыла.

## СЯБРАМ З ПАРНАСА

Вы дамоў не пакідалі
На дзесяткі год,
Не праходзілі праз далі
Ў замець, крыгаход.

Невядомы вам завеі,
Што завуць «пургой».
Вы ад сцюж не разавелі,
Не жылі тайгой.

Знаю — вы не ваявалі
З вечнай мерзлатой,
У снягах не «загаралі»
Круглым сіратой.

Вы ад голаду не пухлі
Ў юныя гады,
Не выпрошвалі на кухні
Гора-баланды.

Дрэў у лесе не валілі
І не «грызлі» скал,
Смерці ў бога не прасілі
Ў тундры, у пясках.

Вы гаворыце, што самі
Зведалі «вятры».
Вас аўчары не кусалі
І не песціў дрын.



Не гразілі штык і кулі,
Смерць ад халадоў.
Не атрымлівалі «дулі»
Разам з баландой.

Вы не ведаеце тачкі,
Лома і кіркі,
Пайкі — горкае жабрачкі,
Зэкаў гаваркіх.

Вас на дзёўбаў чорны воран
І не грыз шакал.
Не пякло вас слова «вораг»,
Мат не сустракаў.

Зразумейце ж і адчуйце
Сэрцам і душой.
Папрашу вас, не крыўдуйце,
Калі можаце, даруйце:
Сам я ўсё прайшоў.

* * *

Зноў пачаўся рабочы мой дзень
Разам з дружнай птушынай капэлай.
Вырываецца песня з грудзей —
Плён развагі і дум маіх спелых.

Абудзілася маці-зямля
І пакрылася скрозь пазалотай,
Нетаропка, цішком, спакваля
Дорыць нам, сваім дзецям, пяшчоту.

Трэба ў час паспяваць усё браць,
Што бязвыплатна дорыць прырода,
І ўзаемна сябе аддаваць
І пяшчотам зямным,
                    і народу.



* * *

Вось закончыўся дзень-неспакой,
І пачаўся разважлівы вечар.
Як заўсёды, парою такой —
Дзелавыя спатканні, сустрэчы.

Зноў пакінуў узнёсласці час:
Я зрабіўся зямным,
                    не нябесным.
Струны арф перасталі гучаць,
Што на крылах трывогу прынеслі.

Дзе дзяваліся спрыт і узлёт.
Гаспадарыць жыццёвая проза.
Падсумоўваю свой умалот
Нетаропка, спакойна, цвяроза.

Так бывае ў жыцці у людзей:
Штосьці раптам садзіцца на плечы,
Пакідае няўрымслівы дзень —
І прыходзіць разважлівы вечар.

* * *

Пастаім, паглядзім на Ай-Петры,
На вяршыню, што тоне ў смузе.
Пад платанам, аблізаным ветрам,
Будзем доўга на горы глядзець.

А як скалы ўжо нам надакучаць
І агні загарацца кругом,
Адвядзём мы свой позірк ад кручы,
Накіруем на мора яго.

Я бліжэй да цябе прыхінуся,
Заглядаючы ў вочы-агні.
Зноў ты скажаш:
— Я мора баюся...
— А мяне?
— А цябе — ані-ні!..

Адвячорак ахутае змрокам
Нас дваіх, нібы тых спарышоў...
Як цудоўна!
На Поўдні далёкім
Я цябе ў свой зазімак знайшоў!

Тут гадзіны заменяць нам вечнасць,
Без якой немагчыма жыццё.
Я з табою — каханай, сардэчнай,
У гасцях у цудоўнейшых дзён!

# ДАРОГІ БЛІЗКІЯ, ДАРОГІ ДАЛЬНІЯ





## КАЎКАЗ

Горы, горцы, вадаёмы
Мне з дзіцячых год знаёмы

Па падручніках тых першых,
Па паэмах і па вершах,

Па аповесцях, раманах
Ды яшчэ кінаэкранах.

Мне здавалася, наяве
Бачу дзіўную я з'яву.

Я у марах верхалазіў
І блукаў па горнай трасе,

Сустракаўся там з арламі
І карміў іх пірагамі.

Але ж гэта толькі мары,
Што дарослым не да твару.

Толькі зараз як належыць
Я убачыў горы, вежы —

Райскі кут зямлі мне роднай,
Легендарнай, пладароднай,

Як палазіў цёплым летам
Па Бештау, па Чэгету;

Пахадзіў вакол Эльбруса
Цвёрдым крокам беларуса.

І бліжэйшымі мне сталі
Вадаспады, дрэвы, скалы;

Кабардзінцы і аварцы,
Асяціны і балкарцы;

Гоман рэчак быстрацечных
У цяснінах тых спрадвечных;

І сівая старажытнасць,
І людская маналітнасць!

## У ГАРАХ

Навакол —
неабсяжны прастор!..
Для душы і для сэрца уцеха.
Над гарамі, лістотай густой
Быццам хтось на калёсах праехаў.

Прагрымеў дальнім водгукам гром —
Праслязілася хмараю неба.
Мы удвух тут з драпежным арлом.
Кожны з нас са сваёю патрэбай.

Ледзь трапеча, шаволіцца ліст
На карчатым, прыземістым дрэве.
І даносіцца спеў-перасвіст,
Парушаючы горную дрэму.

## ЖАЛЕЗНАВОДСК

Неаднойчы і не двойчы,—
Можа, тысячу разоў
Я па сцежках тваіх тупаў
І ў спякоту, і расой.

Мацаў горы і пагоркі,
Не адзін прамераў роў
І па скалах дабіраўся
Да паселішча арлоў.

Стала блізкаю і роднай
Мне Жалезная гара.
Сто разоў тут, на палянцы,
Я пад сонцам загараў.

Піў гарачую вадзіцу
З яе каменных грудзей
І па лесвіцы каскаднай
Падымаўся кожны дзень.

Мяне дрэвы саграваліі
Свежай кронаю густой.
Тут я Музай захапляўся
Пад раскідзістым кустом.

Не, цябе я не забуду
Праз усё маё жыццё!
Ты штоноч мне будзеш сніцца
Да апошніх маіх дзён.



## РАСКАЖЫ

Раскажы мне пра Змейку, Развалку,
Пра загадку Жалезнай, Бешту [1].
Шмат легенд я наслухаўся змалку
Пра шчадроты «бабуль», пекнату.

Знаю, ўсе яны тут —
таямніцы,
Захаваныя процьмай вякоў.
Ім мінуласць далёкая сніцца
Праз няўмольны прыроды закон.

Кожны камень іх, кожнае дрэўца
І глыточак глыбіннай вады —
Год далёкіх трывалыя лейцы,
Старажытнасці дальняй сляды.

Як на варце, стаяць старажылы,
Мабыць, цэлых мільёны гадоў!
Неаднойчы арлы тут кружылі
І адзінкамі, і чарадой.

У марозы, у непагадзь, спёку
Сваю вахту нязменна нясуць.
Ну, а ў нетрах —
глыбока, глыбока —
Акіянамі магмы равуць.

---

[1] Змейка, Развалка, Жалезная, Бешту (Бештау) — горы на Паўночным Каўказе.

Слухаў я і легенды, і казкі.
Ты ж мне праўду пра іх раскажы.
Хай у чэрвеньскім сонечным бляску
Пазнікаюць усе міражы!

## ПЯЦІГОРСК

Я вітаўся з табою дзесяткі разоў —
З белакаменным, шумным, зялёным
І як быццам умытым празрыстай расой,
Што пакрыла каштаны і клёны.

І пры кожнай сустрэчы здаешся ты мне
Непаўторным і самым прыгожым.
Як цудоўна, што выжыў ты ў страшнай вайне,
Не скарыўся, ратуй цябе божа!

Дажываў свае дні тут вялікі паэт,
Адпакутваў сваё і наш Гарбук.
Над паэтам удосталь паздзекваўся «свет».
Не знайшоў тут і сябар наш скарбаў.

Кожны з іх тут пакінуў свой пройдзены след,
Сваю памяць для шчырых нашчадкаў.
Прада мною Машук, нібы той мінарэт,
Сочыць суткамі тут за парадкам.

А вакол мітусня: вадахлёбаў сям'я,
Нібы пчолы, мільгае на сонцы.
На занятку такім разам з імі і я
Цэлы дзень шпацырую бясконца.

Горад-лекар, нястомны зямны працаўнік
Б'е паклоны дзядулю Бештаў.
Ганьбы век яго ў бездані даўнасці знік!..
Горад-сад апрануўся ў каштаны.

## ПАРУЧНІК-НЯВОЛЬНІК

Даліны, рачулкі і стромкія горы
Пакрылі сабою бязмежны прасцяг.
Узлёты, падзенні, свабода і гора
Жылі па суседству ў гэтых гарах.

Адвечныя сваркі, бясконцыя войны,
Пакуты людскія, нявінная кроў...
Жыць кожны хацеў незалежна і вольна.
Таму і грымеў, не змаўкаючы, гром.

І марыў тут кожны натхнёна, узнёсла,
Як вецер, шумеў, вадаспадам грымеў!
Міналі шматлікія зімы і вёсны.
За хмарай начной нараджаўся прамень.

І быў прамянём тым паручнік-нявольнік,
Быў грозным бічом неразумных падзей.
З пагардай глядзеў ён на сваркі
і войны,
На тых, хто накідваў аркан на людзей.

Любіў непамерна свабоду і вольнасць,
Скалістыя кручы, густыя лясы.
Сцяною стаяў за гаротных, бяздольных,
Любоў чалавечую ў сэрцы насіў.

І хітры абрэк, і тужлівы Пячорын
Па-свойму імкнуліся рваць ланцугі.
Здаецца, усё яно сёння,
не ўчора
Зруйноўвае рэк гаманкіх берагі.



Ён звонка спяваў пра раздолле Расіі,
Пра горы Каўказа і мужных людзей.
Не змог яго ў песнях ніхто перасіліць
Ні ўчора, у змроку, ні ў сённяшні дзень.

Здаецца, і зараз ён тут, паміж намі,
Ля грота Дзіяны, глядзіць на Бешту.
Бо песні яго над гарамі-daламі
Звіняць і нас клічуць нібыта на штурм!

На штурм самавольства, знявагі і крыўды,
З чым мы і цяпер шчэ праводзім разлік.
Не жыў ён без мэты, бяздумна не лындаў.
І сёння для нас ён —
нязведаны пік.

* * *

Маразы падкраліся знянацку
Да маёй Жалезнае гары.
Лісце дрэў, нібыта тыя цацкі,
Золатам заззялі у бары.

Зноў пакрыў бясконцыя цясніны
Пеляной сцюдзёнаю туман.
Ледзь прыкметны зрэдку павуціны —
Павуковы пасткавы падман.

Забялелася й суседняя Бештау
Са сваёй Арлінаю скалой.
Птушкі весяліць нас перасталі
У цішыні асенняю парой.

Гэта восень, залатая восень
Раптам завітала на Каўказ.
Гаспадарыць скрозь туман і просінь,
Мо не першы, не апошні раз.



## У ДОМЕ-МУЗЕІ ЧЭХАВА

Ён жыве — не замоўк, не заціх,
Тут з ім гутарыць кожнаму можна.
Ён парадак любіў пры жыцці:
Усё на месцы да дробязі кожнай.

Вось рабочы яго кабінет —
Тварам к сонцу і Чорнаму мору.
Так, адгэтуль ён бачыў сусвет,
Бачыў слёзы людскія і гора.

На стале — рукапісы навел,
Стосік кніжак, чарніліца, ручкі,
Сувеніры, як строй каравел,
І бутэлька цудоўнай шыпучкі.

Вось гасціная з крэсламі ў рад.
Цішыня тут — ні гуку, ні скрыпу.
Адбыліся тут гутарка з МХАТ
І знаёмства з актрысаю Кніпер.

Вось у шафе больш семдзесят год —
Паліто скуранoе, як сведка.
Гэта ў ім ён хадзіў у народ —
Да сваіх пацыентаў нярэдка.

Енісей, Ангара, Сахалін —
Падарожжа ў краіну няшчасных.
У дарогу сушыў сухары
Ён па звычаю дзён тагачасных.

Так пра ўсё нам гаворыць музей,
Што схаваўся між дрэў стогадовых.
Гэта сведка падзей і надзей,
Што прайшлі праз гады чарадою.

## СЕВАСТОПАЛЬ

Ты такім мне і мроіўся з даўніх часоў —
Белакаменным, стройным і строгім,
На світанні умытым марскою расой
І ўздоўж бухты расставіўшы ногі.

Вось такім ты мне мроіўся горад-герой,
Горад-помнік і горад-легенда,—
Патануўшы у зелені летняй парой,
З маяком, караблямі на рэйдзе.

А твая панарама крывавых падзей!
А Малахаў курган! Дыярама!
Я іду па сцяжынцы, якая вядзе
Да мясцін, дзе засталіся раны

Ад няўмольных, страшэнных,
як смерць, навальніц,
Ад бязлітасных трох ураганаў.
Успаміны бягуць так, што сэрца баліць,
Быццам хтось яго коліць рагамі.

Кожны дом твой, каменьчык, кавалак
зямлі,
Кожны кусцік і кожнае дрэўца —
Гэта сведкі пажарышч і воклічаў «плі!»,
Ад якіх давялося ім грэцца.

Як жывыя, зямныя, стаяць прада мной
Храбры Кошка, Істомін, Карнілаў,
Легендарны Нахімаў, паручнік Талстой...
Кулі ворага іх не скасілі.

Вось героі падполля Айчыннай вайны:
Павел Сільнікаў, Дзмітрый Равякін...
Паляглі ж за Радзіму не толькі яны
Смерцю храбрых — байцы-здаравякі.

Чарнаморцы — Красільнікаў, Першын,
Сладкоў,
Кулямётчык Аніліна Ніна
І бясстрашны пілот — генерал Карабкоў,
І разведчык Аношка Аліна.

Аляксандр Чыкарэнка — храбры матрос,
Радавы Афанасьеў Мікола...
Подзвіг кожнага з іх наваколле патрос!
Не забудзем мы іх аніколі!

Колькі слаўных імёнаў запомніць народ
І запіша ў летапіс часу!
Ад марскіх берагоў, ад Байдарскіх варот
Білі «тыграў» героі і «асаў».

А вось колькі лягло на свяшчэннай зямлі
Безымённых, забытых герояў!..
Салютуюць ім сёння палі, караблі
І заводы вячэрняй парою.

Так, такім ты мне мроішся, горад-маяк,
Горад славы, падзей і змагання.
У табе наша будучынь, радасць мая
Да апошняй мінуты дыхання!

## ПЕТРАЗАВОДСК

З даўніх год мы з табаю знаёмы —
З даваенных, далёкіх часоў.
Я адтуль, дзе хвалюецца Нёман,
Дзе заўжды п'яніць пах верасоў.

Ты забыўся на прыкрую старасць,
На самоту сваю, сівізну.
Пэўна, зноў надышла твая сталасць,
Ты прачнуўся ад доўгага сну.

Стаў прывабным, бялюткім і чыстым,
Параскінуўся ўшыркі і ўздоўж.
Адчуваецца скрозь урачыстасць
У спякоту і ў восеньскі дождж.

На пагорку, над возерам-морам,
Заснаваны Вялікім Пятром,
Ты стаіш, як салдат у дазоры,
Як арол на вяршыні між стром.

А наперадзе — сам заснавальнік [1]
Углядаецца ў сінюю даль!..
Ён нібыта разгадвае тайну,
Што схавалася дзесьці ў гарах.

[1] Помнік Пятру Першаму ў Петразаводску.

# КІЖЫ

Трэба доўга плысці па Анежскаму,
Каб дабрацца, ўбачыць вас, Кіжы.
Вы званіцай, храмамі біблейскімі
Здолелі мяне заваражыць.

З даўніх год мясціны тут абжытыя —
Чалавек тут жыў спакон вякоў.
Шчэ стаяць будынкі старажытныя
Гандляроў, сялян і рыбакоў.

Востраў гэты славіцца саборамі,
Зробленымі з дрэва без цвікоў,
Што глядзяць шматлікімі галовамі
У сусветны велічны спакой.

Тут не толькі госпаду маліліся,
Кланяліся нізка, да зямлі.
Радасцю, нягодамі дзяліліся,
Нібы ўсе з адзінае сям'і.

Не, не толькі рухалі тут пальцамі —
Вырашалі, як змагацца, жыць.
Як адзін рабіліся паўстанцамі,
Калі хтось іх спрабаваў душыць.

Вечы-сходы званаром склікаліся —
Пад набатны звон валіў народ!
І за зброю людзі дружна браліся,
Рушылі на ворага ўпаход!



...Казкі, быль —
усё закрыта хвалямі
І пластамі даўнасці гадоў.
Ўсё яно схавалася за далямі
Без наяўных сведак і слядоў!..

## АПОШНЯЕ ЗАДАННЕ

*Памяці паэта-воіна*
*Алеся Пруднікава*

Ад Утукаў да Вохтвозера [1]
Шлях нялёгкі —
скрозь тайга.
Ды і лета горш за восені:
Сырасць, прыкрая туга.

Ні дарожак са сцяжынкамі —
Руш наперад нацянькі.
Толькі дождж па касках дзынкае.
Невясёлыя дзянькі.

Што ж, такі ўжо лёс разведчыкаў:
У завеі, у дажджы,
Праз цянёты, без агеньчыка,
Як у прыцемках хрушчы.

Быць далей ад вока ворага,
Рыхтаваць яму пятлю.
...Наваколле пахне порахам.
Галасы чуваць падлюк.

Трое смелых, але змораных
Да ускрайку падышлі,
Дзе фашысты, нібы вораны,
Кут і харч сабе знайшлі.

[1] Утукі, Вохтвозера — вёскі ў Кандапожскім раёне КАССР.



Да нянавіснага логава
Групу вёў паэт-баец.
Ён не знаў, што між аблогамі
Напаткае свой канец.

Вось і вёска з забудовамі
Над азёрнай цішынёй.
Слёзы, выплаканыя ўдовамі,
Туманом вісяць над ёй.

Цішыня. І раптам з засені —
Кулямётная чарга!..
Скалыхнуліся не ясені —
Прыазёрная тайга.

Ён упаў, нібы падкошаны,
На палянцы, у быльнёг...
...Паплыла зямля-гарошына,
Пакацілася з-пад ног...

Тут, на ўзлеску, паміж соснамі
Быў часовы яго «дом».
Назаўжды гады узнёслыя
Пазнікалі без слядоў...

Адзінока паміж соснамі
Праляжаў дзесяткі год.
Замянілі мары ўзнёслыя
Цемра вечная ды лёд...

А цяпер не адзінокі ён —
Трапіў зноў у «калектыў».
Хай па мове і далёкія,
Па крыві — усе браты.

## ПАРАСВОЗЕРА

Парасвозера —
пасёлак
Даўжынёй на восем вёрст.
То лажбіна, то пагорак,
То паўвостраў, нібы хвост.

Пераціты рэчкай Сунай,
Як акраец, напалам.
Ён прывабны, чысты, юны,
Бы чабор на паплавах.

Тут — прытулак лесарубаў,
Паляўнічых, рыбакоў.
Лесапілень розных трубы
«Кураць» тут над хмызняком.

А на возеры сцюдзёным
Цішыню змяняе шторм.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Хто як можа хлеб надзённы
Здабывае ў родны дом.

Хто у лесе, на заводзе,
Хто ў азёрнай глыбіні.
Бульба тут таксама родзіць,
Не гніе на карані.

Тут амаль што кожны трэці —
З Беларусі, наш зямляк,



І нідзе шчэ ў белым свеце
Не страчалі мяне так.

Хоць я быў тут і не першым
У карэльскіх землякоў,
Дзе чытаў ім свае вершы
Па-над Сунаю-ракой,

Але быў імі прыняты,
Як ніколі і нідзе.
Быў не толькі госцем —
братам
У абдымках цэлы дзень.

## Я СЛУХАЎ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

Па-над возерам з люстрам празрыстым,
Дзе вакол — цішыня і спакой,
Я сядзеў за сталом урачыста
На кватэры сваіх землякоў.

Цэлы дзень зачаравана слухаў
Песні, блізкія сэрцу, душы.
Хто сказаў, што ў Карэліі глуха
І самотна ў краі гэтым жыць?

Людзі тут улюблёныя ў песні,
А яны ж не даюць сумаваць.
На вячорках зімой, напрадвесні
Іх не хоча ніхто забываць.

Як пачуў «Ой, бярозы ды сосны...»,
Мне здалося — я ў родных лясах,
Верасы тапчу раніцай роснай,
Спавівае мяне дзераза.

З беларусамі пелі карэлы,
Праслаўляючы родны мне кут.
Я маўчаў. Вушы, шчокі гарэлі
Ад гарачых, як сонца, мінут.

Мне здалося, што я ў Прыдняпроўі,
Дзе калісьці хадзіў басанож,
Дзе віюцца і Бесядзь, і Проня,
Дзе Асцёр уліваецца ў Сож.



Быў у марах я ў родных мясцінах,
А наяве— ў паўночных лясах.
Тут вакол — цішыня і гасціннасць
І бадзёрыць на золку раса.

## КАРЭЛЬСКІЯ БЕЛЫЯ НОЧЫ

А вы чулі пра белыя ночы
Ды яшчэ у карэльскай тайзе?
За край неба ледзь сонейка збочыць —
Раптам зноў заіскрыцца ў расе.

Вось ляжы і чытай свае кніжкі
Пад нябесным «электрасвятлом».
А калі размясцішся на ўзвышку,
Не паверыш, што гэта не днём.

Як на досвітку, золка і светла,
Ды маўклівасць пануе вакол:
Ні бурану, ні лёгкага ветру.
Мо такі ўжо ў прыроды закон.

Цішыня. Таямнічасць зямная.
Урачыстасць начная. Спакой.
Штось нябачнае сэрца кранае
Трапяткою, пяшчотнай рукой.

Засынаюць і птушкі, і дрэвы.
Спіць і рыба ў азёрнай вадзе.
Толькі воўк адзін, пэўна, не дрэмле,
Ноч яму, што вавёрачцы дзень.

Ды сава дзе-нідзе праскігоча
У таежным глухім гушчары.
Не заплюшчыш да раніцы вочы,
Будзеш моўчкі ляжаць і курыць.



Ледзьве-ледзьве шаволіцца лісце
На бярозах бялюткіх, густых.
Хто хоць раз пабываў тут калісьці,
Ён душою не можа астыць.

Ночы белыя — цуд, панарама,
Цяжка словамі ўсё перадаць.
Калі носіш на сэрцы ты раны,
Раю — ў госці да іх завітай.

Бо яны нас заўсёды пазбавяць
Ад сардэчна-душэўных нягод.
Ім пасільна хвароба любая,
Плавіць здольны і камень, і лёд.

* * *

Разаслаўся коўдраю туман
На вяршынях зморaных Судэтаў.
Разгуляўся вецер-атаман
На абшарах цэлага паўсвету.

Захісталіся платаны і дубы,
Зарыпелі голымі сукамі.
І яны прад бураю — рабы,
Іх таксама бура адшукала.

Я іду насупраць звар'яцелых бур
Сіламі памерыцца сам-насам.
Адмятаю мітусню і бум
І сягаю міма свістаплясаў.

Мне баяцца нечага цяпер:
Злыя ветры засталіся ззаду.
Не згубіць бы толькі мне давер
І сяброўскай шчырае парады.

Хай лютуе вецер-ураган
І туманы засцілаюць далі,
Мне рассцеле восень свой дыван,
Размяце дакучлівыя здані!



## МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ У ПРАЗЕ

Ёсць у Празе кут зямлі заветнай —
На ускрайку могілак сівых.
Ён цяпер стаў велічна-прыкметным
З лесам стромкіх помнікаў нямых.

Іх стаіць чатырыста бялюткіх
Надмагільных гіпсавых «салдат».
Як на вахце, сцерагуць па сутках
Без замены з году ў год падрад.

Тых, хто спіць пад імі непрабудна
Сорак год без клопатаў зямных.
На пляцу зялёным, мнагалюдным
Так далёка ад мясцін сваіх.

І сюды ў дні слаўных юбілеяў
Міма Влтавы — ціхае ракі,
Па прамых каштанавых алеях
З кветкамі прыходзяць землякі.

Вунь ідуць сыны і дочкі Прагі:
Іх байцы ад смерці зберaглі.
Ратавалі гараджан з адвагай,
Самі ж тут касцьмі яны ляглі.

Вунь магілы — у вянках, у кветках,
На сцяжынках — свежыя сляды.
Хай жа будуць непадкупнай сведкай
Тых магіл свяшчэнныя рады!

## БЫВАЙЦЕ, КАРЛАВЫ ВАРЫ!

Ёсць час для блукання і мары,
Ёсць тэрмін жыцця без турбот.
«Дзікуем» вам, Карлавы Вары,
Давалі вы дом мне і грот.

Мяне вы кармілі, паілі
Адметнай гаючай вадой,
Здароўе і радасць дарылі
З усмешкай заўжды маладой.

Я быў на вяршынях Судэтаў,
Хадзіў па сцяжынках лясных,
Быў шчыра я вамі сагрэты,
Нібыта пяшчотай вясны.

Пабачыў мясцін колькі новых,
Мінулых вякоў забудоў!
Сустрэў тут сяброў рознамовых
З далёкіх ад нас гарадоў.

Бывайце ж, цудоўныя Вары
З гасціннасцю і дабратой!
Жывіце з усмешкай, без хмары,
Частуйце падлеткаў і сталых
Сваёй цудадзейнай вадой!



# ПАЭМЫ



# ЗАПОЗНЕНАЕ ПРАСВЯТЛЕННЕ

## УСТУП

Нам прырода авансам дае
Спрыт і кемлівасць, дужасць і розум.
Раздае ўсе багацці свае,
Свой набытак —
зямную цвярозасць.

Так выходзіць —
красуйся, жыві,
Радасць, шчасце нясі сваім блізкім.
Толькі кветак дарэмна не рві
І пачварам не кланяйся нізка.

Так здаецца на досвітку дня,
Калі ўсе мы ад шчасця хмялеем.
Нас ад светлых надзей не адняць,
Мы ад іх недатыкаю млеем.

Так бывае, пакуль мы жывём,
Покуль самі сабою кіруем,
Покуль сэрцы палаюць агнём,
Неабдымныя страсці віруюць.

А як здрадзіць нам моц тармазоў
І цягнік пабяжыць сваім ходам,
Стрэнуць прыкрая слота і золь,
Знікне ўсё, што дала нам прырода.

Паляцім пад жыццёвы адхон
З быстрынёю шалёнае кулі!..
І жыццё, нібы той палігон,
Нашы душы смуродам пракурыць.

Мы пачнём вінаваціць свой лёс —
Невядомую нейкую сілу.
І рыдаць патаемна, без слёз
Па дзяньках, што нас птушкай насілі.

І ў сваіх асабістых грахах
Часам каяцца будзем няшчыра.
Хочам быць мы на ўласных нагах,
Ды бязволле прыцісквае гірай.

Так, прырода нам дорыць усё:
Сілу, дух і пачуцці без злосці.
Калі ж хто — віславухі асёл,
Хай вініць ён сябе, не кагосьці.

Трэба годнасць сваю берагчы
Не ў зазімак, а ранняй вясною.
Цяжка даўнія раны лячыць
Сярод цёмнай асенняй начы,
Бы ў каўчэгу біблейскага Ноя.

## І. РАНАК НАДЗЕЙ

### 1

Майскі дзень. Паветра пахне бэзам.
Квецень уваходзіць у сады.
Спеў птушыны носіцца над лесам,
Музыкай натхняе маладых.

Сонца шчодра песціць прамянямі
Парасткі вясновай збажыны.
А ў нябеснай далечы над намі —
Жаўрукі, палеткаў певуны.



Так усё тут зззяе і гамоніць,
Радуецца новаму жыццю!
...Ён жа глух да гэтае гармоніі,
Здаў сябе тупому забыццю...

Ён праз шкельцы цёмных акуляраў
Не пабачыць сонечных дароў...
Зразумеў цяпер, што ён — ахвяра
Дзён бяздумных, бурных вечароў.

Не пабачыць, не пачуць не здольны
Музыкі цудоўнае пары...
Абыякавым, глухім, бязвольным
Ціха апускаецца з гары.

Пад адхон спускацца лёгка, проста —
Непатрэбна розуму і сіл.
Хоць вялікі, хоць маленькі ростам,
Лёгкасцю пакажацца усім.

На гару ж падняцца — справа дужых.
Трэба воля і здаровы дух.
Іх дарогі не ўсцілаюць ружы.
Кожны выкладаецца за двух.

Шлях нялёгкі, але ён пачэсны
І надзейны ўсюды і заўжды.
На планеце для такіх не цесна.
Квеценем страчаюць іх сады.

### 2

Ён успомніў свой цудоўны ранак,
Ранак светлых, радасных надзей.
Ён не знаў тады пра тыя раны,
Што ратунку не даюць нідзе.

4 Зак. 2813

І адкуль ён чэрпаў спрыт і лёгкасць,
У каго нястомнасць пазычаў?!
Адчуваў хлапечую няёмкасць
У людзей сумленных на вачах.

Рос без бацькі. Гадавала маці.
А віною гэтаму — вайна.
Быў заўжды з касой на сенажаці
І хадзіў за плугам дацямна.

На быках араў ён да знямогі.
Часам сам хадзіў у хамуту.
Часта цыпкі раз'ядалі ногі,
А злавіць мог птушку на ляту.

Паспяваў на працу, на гулянку,
Памагаў матулі як умеў.
Не гуляў, як іншыя, у лялькі.
З кожным днём за працаю мужнеў.

А харчы якія! Цяжка ўспомніць...
Ўсё забрала, знішчыла вайна.
Не адзін паставіць трэба помнік
Тым, хто жыў і мучыўся спаўна.

Не забыць галодны сорак сёмы —
Тых гнілушак-«гопікаў» вясной.
Прабіраюць дрыжыкі шчэ сёння..
Нам цяпер здаецца яно сном.

Толькі ён не думаў пра ўсё гэта,
Жыў заўсёды радасцю надзей.
Цеплынёю маці быў сагрэты,
З ёю тупаў побач дзень у дзень.



3

Сын для маці —
радасць, дапамога,
Гонар, непагасны яе дзень.
Хоць чакаць шчэ трэба было многа,
Пакуль роўным стане між людзей.

Ён падлеткам спрытна, па-юнацку
Абганяў за працаю дзядзькоў.
Тапаром валодаў, нібы цацкай,
Бо не меў надзеі на бацькоў.

Дах паправіць, ацяпліць адрыну,
Можа плот старэнькі аднавіць.
Памагаў рабіць ён дамавіны
І ўдаве для хаты лес вазіць.

А аб дровах маці не тужыла —
Нарыхтуе ўлетку на зіму.
Рукі хлопца з дабрынёй служылі
Добрым людзям, маці і яму.

Са старэйшымі рабіў на пару
З коскаю, за плугам, з тапаром.
Не любіў пустыя тары-бары
Ні зімой, ні летняю парой.

Ненавідзеў плёткі ён, і сваркі,
І змяюгу чорную — хлусню.
Уцякаў ад курыва, ад чаркі,
Зневажаў пустую мітусню.

Не магла нарадавацца маці
І хваліла сына што ні дзень:
— Хоць у полі, хоць са мной у хаце
Гаспадар мой Сцёпа, дабрадзей.

Хай пакінуў лёс мяне без мужа
І дзіця маё асірацію,
Я са Сцёпам расцвітаю ружай.
За пакуты лёс мне заплаціў.

Мне б цяпер дажыць да яго дзетак,
Ну а там — трава хоць не расці! —
Шчабятала ў радасці кабета.
Ёй ляцець хацелася, не йсці.

— Не пакрыўдзіў лёс цябе, Марына,
Заплаціў за ўсе тваё грахі.
Не жыццё, як кажуць, а маліна
У цябе між дзетак дарагіх,—

Гаварылі ёй аднавяскоўцы
З дабрынёю, ад усёй душы,
З кім штодзень страчала разам сонца,
З кім віталі ластаўкі, стрыжы.

4

Час ішоў. Мужнеў Сцяпан Пятровіч.
На ўсю вёску хлопец хоць куды.
Ён за працай сілы мог патроіць
У свае юначыя гады.

Раптам Сцёпа стаў ужо салдатам.
Танк вадзіў ранейшы трактарыст.
Няхай вопыт быў і небагаты,
Але быў ён прыкладны танкіст.

На вучэннях быў ён пераможцам,
Біў любога «ворага» ў баю.
А на святах — першым сцяганосцам,
Дзе паказваў выпраўку сваю.



Стос падзяк загадамі па часці
Назбіраў Сцяпан за першы год.
Ну, а потым прываліла шчасце —
І медаль за доблесны паход.

А значкоў не менш за цэлы тузін
На грудзях героя. Не драмаў!
Больш яго ніхто, можа, ў акрузе
Ўзнагарод такіх не атрымаў.

Тры падзякі й маці атрымала
Ад начальства, дзе служыў Сцяпан.
— Недарэмна сына гадавала,
Ён цяпер не Сцёпа —
атаман.—

Пацяшалі добрую Марыну
Тыя, з кім за працаю жыла.
І была шчаслівая за сына
На вачах калгаснага сяла.—

Вернецца дамоў, палюбіць дзеўку,
За нявестку ў хату прывядзе.
— Што вы, бабы,
ён шчэ маладзенькі,
Не прыйшоў для Сцёпы гэткі дзень.

## II. У ЗЕНІЦЕ СЛАВЫ

1

— Чулі, бабы, навіну такую?
Сын Марыны з арміі прыйшоў.
— Ну, цяпер дзяўчаты затакуюць
Перад гэтым стрыжаным пыжом.

— Што дзяўчаты, для Марыны радасць!
Колькі гора зведала ўдава!
Ён цяпер — і муляр, і араты.
Здольны тон у працы задаваць.

Сын — не дочкі, што вы ні кажыце,
Ды яшчэ, як Коцікаў Сцяпан.
Ён не з тых, што летам спяць у жыце,
За любою працай — капітан,—

Так малолі бабы языкамі
Цэлы дзень — ад ранку да цямна.
Па чарзе размахвалі рукамі,
Плёткі распускалі як адна.

А калі ж убачылі вачыма
(Ён па вёсцы з выпраўкай прайшоў),
Не адна цікаўная жанчына
Клікнуць пажадала «пляменнікам».

І дзяўчаты ціхенька праз шыбы
Назіралі за яго хадой.
Потым жа таемна па сялібе
З «навіной» хадзілі з дому ў дом.

Адна маці рада да знямогі,
Як калісьці, сына абняла.
Бедалагу ледзь трымалі ногі.
Ёй здалося, быццам бы плыла...

— Хопіць, мама,
зноў мы будзем разам,
Не часова. Разам назаўжды!
Больш цябе не стрэнуць ні абразы,
Ні тужлівай памяці гады! —



Суцяшаў заплаканую маці
Сын яе — учорашні салдат.
...Зноў яна затупала па хаце,
Быццам безадказны аўтамат.

2

Дні праз тры, вячэрнім майскім часам,
Калі сад хрушчамі гаманіў,
Старшыня мясцовага калгаса
Да сябе Сцяпана запрасіў.

— Што ж да нас, Пятровіч,
не заходзіш?
Ці крыўдуеш, можа? Гавары.
А гуляць у хованкі нам годзе
На адным зрадніўшым нас двары.

Бачыш сам — вясна, патрэбны рукі
І да рук, канечне, галава.
Брыгадзір наш —п'яніца, падлюка.
Надаела нам з ім гараваць.

Выручай —
бяры «бразды праўлення».
Ведаю, што ты не падвядзеш.
Спадзяюся на тваё сумленне.
Дапаможам пры любой бядзе.

Гаварыў Гарун дыпламатычна
Без загадак і залішніх слоў.
Для яго усё гэта прывычна,
Ён лічыў яго за рамяство.

А Сцяпан стаяў, як без'языкі,
Нават слова вымавіць не мог.

Раптам стаў ён блытана, заікам
Гаварыць штосьць, гледзячы ў парог:

— Я не варты гэткае пасады,
Мне — машыну, трактар ці тапор...
— Што ж, Пятровіч, значыць,
ад нас задам?
Прапанову лічыш за дакор?

— Мне й самому хочацца тут ладу,
Ды брыгады мне не пацягнуць.
— Танк цягнуў, пацягнеш і брыгаду.
— Тыдзень бы які перадыхнуць...

— Не ламайся, прынімай брыгаду,
Гэта наш з табой агульны доўг.
Знаю — людзі будуць вельмі рады.
Я зрабіў усё, што толькі мог.

— Калі так настойваеце — згодзен,
Не чужы я ў родным мне кутку.
Можа, й праўда — упірацца годзе.
Я ж тутэйшы, не абы адкуль.

Толькі, я прашу, дапамагчы мне
З першых дзён, пакуль знайду сябе.
— Хваляваціа сорамна мужчыне.
Уяві, што ты на малацьбе.

Ці сядзіш на «Ніве» за штурвалам,
Ці кіруеш «МАЗам», «МТЗ».
Памагаць мы будзем з «камісарам».
Прыйдзе час — ты скажаш: «Балазе!»



3

Зноў пайшла гаворка пра Сцяпана —
Вёска дружным хорам загула.
Ахрысцілі дзеўкі яго «панам»,
Каб пасля хіхікаць з-за вугла.

Кожная хацела прычапіцца
І прыліпнуць да яго самой.
Ён сказаў:
— Не думаю жаніцца,—
Каб развеяць той дзявочы рой.

Толькі дзе там! Дзеўкі горш за пчолак,
Джаляць і кусаюць прама на хаду.
Кпілі з брыгадзіра яны ўчора
І сягоння зноў над ім гудуць.

Бабы зноў малолі языкамі,
Плёткі распускалі па дварах,
Рукі накрывалі фартухамі,
На суседзяў наганялі страх:

— Малады, куды яму — спячэцца.
Клім і той не вытрымаў — зачах.
— Не, кума, убачыш, абатрэцца,
Як усе, сеч будзе з-за пляча.

Мужыкі ж цвяроза разважалі:
— Старшыня папраўдзе паступіў.
Трэба й нам падкінуць было пары,
Хоць пад тых, хто розум не прапіў.

— Не кажы, пры гэтым не закіснеш,
Не заснеш у спёку пад вярбой.
— Не хвалі, Іван, і ён павісне
Перад тым, як рынуцца у бой.

Клім сказаў:
— Цябе, браток, надуюць.
Ты цяпер у д'яблавых руках.
Я, Сцяпан, пасады не шкадую.
Я цябе шкадую, юнака.

Хто як мог там выдумляў прагнозы
І малоў. Язык жа без касцей.
А вось маці думала праз слёзы:
Непакоіў нейкі страшны цень.

Штось нядобрае адчула сэрца,
Калі Сцёпа ўсё ёй расказаў.
Стала біцца, быццам птушка ў клетцы,
Нібы ў павуціне страказа.

— Адмаўляйся, сын, прашу, не трэба,
Ноша гэта — не тваіх плячэй.
Без пасады гэтай будзем з хлебам.
І табе, і мне будзе лягчэй.

— Не магу, я слова даў салдата,
А салдат не можа адступаць.
...І пайшоў ён з галавой узнятай
Па няхітрых Клімавых слядах.

4

З год дзіцячых шанаваў ён працу,
Без яе сябе і не ўяўляў.
Кожны шрубік сам рукамі мацаў.
Ні адной мінуты не гуляў.

Не прывык камандаваць ён змалку,
Сам сябе ў аглоблі запрагаў.
А калі ж хто «ў кола ставіў палку»,
Тут Сцяпан ужо не даравaў.



Дзень у дзень, не ведаючы стомы,
Працаваў,
брыгадай кіраваў.
Толькі ноччу быў у роднай хаце
Ён — брыгады-вёскі галава.

І пайшла заслужаная слава
Пра Сцяпана аж на ўвесь раён.
Да яго «за вопытамі» слалі
Брыгадзіраў цэлы батальён.

Спрабаваў спачатку адбівацца
Ад такіх няпрошаных гасцей.
Ну, а потым —
месяцаў праз дваццаць —
Пажадаў мець больш іх і часцей.

Закружылі гонар і пашана
Хлопца маладога галаву.
Стала есці сэрца яго рана,
Як пякучка росную траву.

Сцёпа стаў Пятровічам Сцяпанам.
Так яго ўжо кожны велічаў.
Быццам ён валодаў талісманам,
Адкрываў таемнік без ключа.

Нават маці стала асцярожна
Сына свайго Сцёпам называць.
А вяскоўцы — без малога кожны —
Прад ім шапкі пачалі здымаць.

Так расла ўсяўедлівая рана
У юначым сэрцы і душы.
Ён глядзеў уперад праз туманы —
Д'яблу прадаваўся за грашы.

Бо нага ў нагу са славай-здрадай
Крочыў потым і «зялёны змей».
Хоць жыццё здавалася і садам,
Ззаду краўся спакусіцель-звер.

## III. ВЯСЕЛЛЕ

### 1

Нечакана вёсцы Пераброды,
Дзе Сцяпан брыгадай кіраваў,
У нядзелю, перад Новым годам
Райсавет медпункт падараваў.

Неўзабаве й фельчар быў прызначан —
Выпускніца Мінскага МВ.
— Ты, Пятровіч, зразумееў задачу —
Што й каго ў брыгадзе ты займееў? —

Старшыня падхлёстваў брыгадзіра,
Ён даваў загадкавы намёк.—
А ці, можа, чым не дагадзілі?
Тады вешай на мой рот замок.

І з паўслова зразумеў тут Сцёпа,
Што хацеў сказаць яму Гарун:
Калі ўпусце дзеўку — ён расцёпа
Ці нязграбна зроблены калун.

Паглядзеў —
дзяўчына што і трэба:
Свежы розум, чыстая душа.
Не лятае птушкаю пад небам,
Але здольна думаць, разважаць.



Пэўна, справу ведае нядрэнна,
Трапіла сюды яна знарок.
«Не, на працы дзеўка не задрэмле,
А задасць і мне яшчэ урок».

Ён усё узважыў і адмераў
І сказаў сабе:
«Яна мая!» —
Так сказаў і сам сабе паверыў.—
«Не чужая будзе, а мая».

Час ішоў. І ён штодзень памалу
Стаў ключы пад Галю падбіраць.
Ды і Галя, мабыць, не зявала —
Да ўсяго гатовая была.

Як заўжды бывае напачатку,
У кіно дзяўчыну запрасіў.
А пасля таксама для парадку
Ў час танцулек на руках насіў.

Гімнасцёрку Сцёпа з медалямі
Стаў часцей, часцей ўсё надзяваць.
Любаваўся хлебнымі палямі
І сваёй каханкаю дзівак.

А фінал — дамоўленасць і згода.
Ён цяпер — аб'яўлены жаніх.
На вачах народа і прыроды
Захапляйся, радуйся, жыві!

2

Загуло вяселле чын па чыну —
Святкаваў амаль увесь калгас.
Людзі гаварылі:
— Малайчына!
Ён заўсёды думае пра нас.

Ды і жонку ж падабраў, халера,
Як з вітрыны, лялька хоць куды.
Пэўна, многа мела кавалераў
За свае дзявочыя гады.

— Па назе і лапаць, даражэнькі,
Глянь які наш Коцікаў — арол!
Калі быў зусім яшчэ маленькім,
Ён ад болю не стагнаў, не роў.

— Я не супраць, што Сцяпан — наш гонар,
Наш надзейны сённяшні паром.
Ды яна й Галіначка не горай:
І рыдлёўкай можа, і пяром.

Працу, ідаць, любіць яна змалку,
А не круціць легкадумна дыск.
І уколе, і паставіць банкі,
І як трэба, дык праверыць ціск.

Доктарка, скажу табе, што трэба.
— Хвельчар, Хведзя, ты не загінай.
Мы ж жывём з табою не на небе.
На зямлі. Між намі і яна.

Бачу я, што ты не раўнадушны
Да нявесты, сівы верабей.
Ад тваёй хвалёнкі стала душна,
Бачу пот і на тваім ілбе,—



Так вялі размову у застоллі
Землякі Сцяпана-жаніха.
Гаварылі стрымана, прыстойна,
Хоць і ледзь стаялі на нагах.

Раптам грымнула здалёку:
— Горка!
І, як выбух, рэха паплыло...
Патанулі ў крыку і гамонка,
І ўвесь звон хрустальны над сталом...

Потым тосты і прамоў тырады —
Хто як мог хвалілі «маладых».
А той-сёй даваў свае парады,
Зычыў шчасця, райскія сады.

Ім жадалі згоды і кахання,
Тузін дзетак, шчасця за пяцёх,
Даўгалецця, сонечнага рання
Праз усё іх «светлае жыццё».

А яны, «віноўнікі», маўчалі,
Кожны быў заняты сам сабой.
Ціхенька галовамі ківалі
Пасля тостаў, здравіцы любой.

Вось дайшло да песень да вясельных.
Кіравалі тут ужо жанкі.
Разам, а затым раздзельна
Паляцелі гукі ўздоўж ракі!..

Іх змянілі жвавыя дзяўчаты,
І змяняўся песенны матыў.
Шкадавалі — часу малавата,
Хоць гулялі аж да цемнаты.

Напаследак — слова за Марынай.
Стомлена, нібыта на касьбе,
Дзякавала ўсім гасцям за сына,
За нявестку, потым за сябе.

### 3

Так Сцяпан стаў сем'янінам-мужам
І шчаслівым, як ніхто нідзе.
Свет увесь здаваўся яму ружай,
А ён сам — букетам між людзей.

Быў у працы плён, было натхненне,
Без хмурынак кожны божы дзень.
Быццам прадаўжалася вяселле,
Дзе ён быў героем тых падзей.

І Галіна птушкаю лятала,
Паспявала ўсюды і заўжды.
Ластаўкай ля мужа шчабятала,
Не чакала заўтрашняй бяды.

Снеданне згатуе і вячэру
І накорміць мужа ў пэўны час.
Ёй хацелася кахаць і верыць
Так, як верыў ім увесь калгас.

Перад тым як даць паесці мужу,
Прапануе «шнапсіку грамок».
Кажа:
— Грамы розум не закружаць,
Больш святлейшым зробяць яго зрок.

І, канечне, апетыт падвояць,
І падымуць згублены настрой.
Кіраваць смялей будзеш братвою,
Асабліва хеўрай халастой.



Ды і зелля ж гэтага не шкода,
Ці ж яго за грошы нам купляць.
Пакуль ёсць медпункт у Перабродах,
Колькі трэба,
будзем здабываць.

Слава богу, ў магазін не ходзім
За «святою божаю слязой».
Пакаштуем трошачкі, і годзе.
Спырснем розум светлаю расой.

Так яна рабілася «забойцам»
Па сваёй наіўнай слепаце.
Патухала шчасця яе сонца,
Бо сядзеў у промнях яго цень.

## IV. ПАДЗЕННЕ

### 1

З лёгкае рукі каханай жонкі
Стаў Сцяпан на чарку налягаць.
Ён забыў, калі крычалі «горка!»,
І на ўсё хацеў цяпер начхаць.

Зойдзе да суседа —
не адмовіць,
Не адмовіць і любы шафёр.
І лайдак, што летам і зімою
Носіць так, для бачнасці тапор.

Кум-парторг «ішоў яму насустрач»,
Часам частаваў і старшыня.
Аграном і заатэхнік шустры
Запрагалі з раніцы каня

І Сцяпана везлі на узлессе,
Дзе стаяла хата лесніка.
Каля іх там тупала Алеся —
Маладая жонка Змітрака.

Там штодзень была свая «сівушка» —
Не драмаў у шапку гаспадар.
А на закусь — свежанькая юшка —
Ціхай рэчкі незаменны дар.

Конь патрэбны Ганне ці Раману
Дроў прывезці, соткі узараць.
Да каго звярнуцца? Да Сцяпана.
Воля яго — даць ці не даваць.

І калгаснік мае свае планы,
Дык навошта ж іх цяпер ламаць?
І ідзе з бутэлькай да Сцяпана
Сам — сям'і калгаснай галава.

Корм патрэбны парсюку, карове,
Бо зіма не любіць жартаваць.
Не карміць жа мохам ці карою —
Камбікорм патрэбен і трава.

А з травы ж і сена нарыхтуеш,
Толькі дзе і як яе здабыць?
І папросіш «рыбку залатую»
Пра цябе, Івана, не забыць.

Быў той «рыбкай» брыгадзір, канечне,
Да яго ты нехаця ідзеш.
Будзеш другам для яго сардэчным,
Калі ты на чарку пазавеш.



2

Кожны дзень ад ранку і да ночы
Думаў Сцёпа толькі аб адным:
Дзе і як бы затуманіць вочы
І глядзець на Сонца, як праз дым.

Для яго ўжо больш не існавала
Ні палёў брыгадных, ні людзей
І ні той, што ў горы гадавала,
Век жыла гаротніца ў бядзе.

А на жонку ён махнуў рукою,
Хоць віны яе і не разумеў.
Неслі ў прорву яго д'яблы-коні!..
Для жыцця ён слепнуў і нямеў.

Ён адбіўся ад сям'і, ад дому,
Ад людзей хаваўся, быццам крот.
Вунь гніюць і сена, і салома,
Дах раскрыўся, паваліўся плот.

А яму «да лямпачкі» ўсё гэта —
Прападзі яно ўсё трын-травой!
«Трэба будзе, зробіцца за лета.
Дом жа й маці, а не толькі мой.

Ці наняць не могуць каго-небудзь?
Грошы ж ёсць, куды ім іх, саліць?» —
Сам з сабою размаўляе ледзьве,
Ні аб чым душа ўжо не баліць.

Плача жонка, і галосіць маці.
Пад яго ж хоць жару падлажы.
Лішнім стаў у роднай сваёй хаце,
Нелюдзімым, чэрствым і чужым.

Ледзь займецца золак — на машыну,
На службовы гора-матацыкл.
Праімчыцца міма канюшыны
І на ўзлессі знікне, нібы дзік.

3

І пайшла гаворка па брыгадзе,
А пасля і плёткі, як заўжды:
— Брыгадзір з Галінаю не ладзяць,
Недалёка, бабы, да бяды.

— Дзе ж там лад, калі штодзень
«пад мухай»
І дамоў прыходзіць, нібы цень.
А ты менш яе, гадзюку, слухай,
Бо яна й не гэта напляце.

— Можа, скажаш, Вольга, што не п'е ён?
— П'е. Ды хто ж да чаркі прывучыў?
— Усе яны з мужчынскага тут племя
Набяруцца й ходзяць, як сычы.

— Не, не ўсе. Яго згубіла жонка,
Спірт, вядома, у яе руках.
А пасля і наша самагонка...
Мы згубілі самі земляка.

— Можа, й так,— куме сказала
Вольга,—
Зробім шкоду і давай судзіць.
Потым збоку назіраем доўга
І з ахвяры пачынаем кпіць.

Мужыкі ж Сцяпану спачувалі,
Шкадавалі шчыра, як бацькі,
Волю языкам тут не давалі —
Пачуццём дзяліліся сваім.



— Гіне Коцік — наш Сцяпан Пятровіч,
Трэба хлопца неяк ратаваць,
Неабходна намаганні ўтроіць,
Каб яго ад гібелі ўтрымаць.

Кожны ведаў і сваю віну тут,
І віну калгасных важакоў:
— Тут мы ўсе з ім абышліся люта:
Самі мы, праўленцы і партком,—

Гаварыў разважліва і слушна
Малады і ўдумлівы цясляр.
Быў заўсёды ён цвярозым, мужным,
За любою працай — гаспадар.

Так адчулі ўсе ў падзенні Сцёпы
І сваю, хоць трошачкі, віну.
Толькі старшыня на ўсю Еўропу
Галасіў:
— У рог яго сагну! —

Хоць і ведаў, што і ён адказны
За падзенне юнае душы,
Што і сам у брудзе непралазным
Непрабудна дзень і ноч ляжыць.

Гэта ён з парторгам патуралі
І цягнулі Коцікава ў вір,
А цяпер «у клешчы» яго бралі.
Ім такі не трэба брыгадзір.

## V. БЕСПРАСВЕТНАЯ НОЧ...

### 1

Год, другі —
Сцяпана палажыла
Тая, што «змяюгаю» завём.
Ён схуднеў, віднеліся скрозь жылы.
Для начальства ж стаў ён мазалём.

І Гарун, параіўшыся з Гракам,
Ці з парторгам — «светлай галавой»,
Вырашыў пазбавіць небараку
Кіраваць брыгадай палявой.

— Можа, хопіць няньчыцца з пачварай,
Ён зняславіў і сябе, і нас.
Мне — дык што, табе вось «камісару»...
Спадзяецца на цябе калгас,—

Пераконваў старшыня парторга,
Што інакш не мог ён пасгупіць.—
Бо інакш не раз нас будуць дзёргаць,
Будуць разам нас з табою біць.

І парторг згадзіўся з прапановай
Старшыні калгаса Гаруна:
Супраць ён не вымавіў ні слова.
Знаў — была тут і яго віна.

### 2

А калі даведалася жонка
Пра рашэнне Грака з Гаруном,
З хаты паляцела знічкай-зоркай!..
«Прытуліў» кабету аграном.



Маці залівалася слязамі,
Ды не знала толькі, што рабіць,
Сум з тугою ў сэрца залязалі,
Сына умаляла кінуць піць.

Але дзе там, ці ж яго ўгаворыш!
Ён сабою сам не кіраваў.
Зноў Марыну напаткала гора.
Пасівела раптам галава...

### 3

І Сцяпан па схілу дзён туманных,
Бы вагон, каціўся пад адхон,
Ён забыў пра сонечнае ранне —
Браў у прорву здрадніцкі разгон...

Што ні дзень ён апускаўся тварам
Прама ў бездань, у нямую муць!..
Ён цяпер не думаў і не марыў
Пра людзей, што сець яму плятуць.

Больш яго «сівушкай» не паілі,
На «казёнку» ж цэны падраслі.
І Сцяпан глушыў сябе «чарнілам».
Не было за што — у доўг прасіў.

Не карцелі ні яда, ні праца.
Дзён не мог адрозніць ад начэй.
Кожны дзень шукала яго маці,
Каб адвесці ад людскіх вачэй.

А калі з вачэй адпырхне просінь,
Пройдзе хмель — і зноў ён чалавек.
Сцёпа прабачэння ў маці просіць,
Абяцае быць цвярозым век.

З тапаром паходзіць каля дому
І паесць, як людзі, за сталом.
Потым зноў схіляецца да долу...
Без руля нясе яго паром!..

Непрыкметна стала мучыць астма
І гастрыт бязлітасна тачыць.
Стаў трапляць ён у бальніцу часта,
Ратавалі сёстры, урачы.

Раілі заўсёды па-сяброўску
Пазбягаць той «божае слязы».
Ён згаджаўся і рукамі плёскаў,
Кляўся богам, сам сабе гразіў.

А назаўтра — зноўку па-старому,
Зноў пад плотам — «мяккая пасцель».
Як раней — пад бурай і пад громам.
Замест коўдры — беспрасветны цень.

Не абразіў ён нідзе нікога,
Не рабіў і спробы вымагаць.
А даўгоў вось пакідаў замнога,
Ледзь магла іх маці пагашаць.

4

Перажыў нямала дзён тых чорных
Бедалага Коцікаў Сцяпан,
Пакуль хтосьці ні данёс дазорным,
І ён тут жа трапіў на «экран».

Дні праз тры прыйшло і «запрашэнне»
У «санаторый» аж на два гады!
Ад такога грознага рашэння
Не памкнешся, браце, нікуды.



...Зноў Сцяпан націснуў на педалі,
Даказаў, што ён яшчэ жывы.
Недарэмна ж ён насіў медалі,
На танкіста атрымаў правы.

Працаваў да поту змена ў змену,
А пасля — за кніжку ці ў кіно.
То была такая перамена,
Пра якую думаў ён даўно.

Усё яно ішло там чын па чыну,
Не бянтэжыла праклятае пітво.
Пра яго казалі:
— Малайчына!
Зноў надыдзе дзень прыгожы твой.

І ён верыў — будзе чалавекам,
Вернецца Галіна да яго.
Ён не знаў, што робіцца калекам
На зямельцы сэрцу дарагой.

Адбылося ўсё неяк звычайна —
Спакусілі спірцікам сябры.
Як прыдбалі — засталося тайнай:
Не за так ці проста за рублі.

Толькі спірт, на гора, быў тэхнічным,
Піць яго — развітвацца з жыццём.
Забаронен быў катэгарычна
З першых дзён гатунку, з адкрыццём.

А яны ж утрох амаль бутэльку...
Як агнём вантробы абпякло...
Так пякло, хоць вешайся за бэльку...
Вочы пеляной завалакло...

Двое з іх аддалі душы богу,
А Сцяпан дык цудам ачуняў.
Праўда, папакутаваў замнога,
Нейкім цудам выжыў, не сканаў.

Жыць жыве, ды толькі ўжо без зроку —
Зрок застаўся ў келіху, на дне.
Ад яго цяпер усё далёка.
Бачыць наваколле, нібы ў сне.

Ён праз шкельцы цёмных акуляраў
Разглядзець спрабуе летні дзень.
Усяму каюк, пра што ён марыў.
Сеў на вочы і на сэрца цень...

Ён заўчасна зноў у роднай хаце,
Без пары глыбокі інвалід.
Выплакала вочы свае маці:
Сын стаіць, як помнік, як прывід.

## VI. ПРАСВЯТЛЕННЕ, АЛЕ ЗАПОЗНЕНАЕ

### 1

Жыве зямля сваім жыццём бясконцым:
Шумяць лясы, цвітуць сады наўсцяж.
А ён, як слуп, стаіць насупраць сонца,
Нібы прыйшоў пасмажыцца на пляж.

Усё жыве: у кветках луг і поле,
Шчабечуць птушкі і гудуць чмялі.
А вось яму не ўбачыць ужо болей
Ні шышак хвой, ні кветак на зямлі.



Прад ім ледзь-ледзь мільгаюць
промні сонца,
А ўсё вакол схавалася ў туман...
Як быццам сеў на плечы яму стронцый
І цісне ўніз за той самападман.

Ён прагне ўбачыць радасць на планеце,
Ды ўсё дарэмна — позна пажадаў.
Для ўсіх заўсёды сонца роўна свеціць,
А ён, дзівак, і з сонцам не ў ладах.

Вакол жыццё. І людзі, як мурашкі,
Туды-сюды — за працай кожны дзень.
А ён ніхто — ахвяра брыдкай пляшкі,
Сабе самому — здраднік, ліхадзей.

Жывуць усе ў сямейным ладзе, згодзе,
Дзяцей гадуюць, радуюць бацькоў.
А ён адзін прывідам жалкім ходзіць,
Жыцця свайго глытае горкі ком.

Ён быў калісь байцом на поле хлебным,
За двух, за трох усюды паспяваў.
Цяпер жа ён нікому не патрэбны.
Жыццё ў хмялі пратупаў, праспяваў.

А мог і ён, як іншыя, з кім разам
Нага ў нагу ішоў па цаліку,
Згараць у працы, загараць пад вязам
І ў горы сябру працягнуць руку.

### 2

Цяпер яму усё тут зразумела,
Кім быў раней і хто ён сёння ёсць;
Калі і як бязволле яго з'ела;
Чаму у родным доме сваім — госць.

Прыйшло яно нарэшце — прасвятленне.
Больш дзесяць год чакаў яго Сцяпан.
Было яно каўчэгам —
вызваленнем:
Больш сорам-боль за сэрца не шчыпаў.

Было яно запозненым, канечне,
Праз шэраг год нялёгкага жыцця.
Затое ж ён у споведзі сардэчнай
Сказаў пра ўсё гадзін тых забыцця.

Сказаў усё, каб болей боль не мучыў
І сорам сэрца джалам не калоў,
Каб больш ніколі дзён такіх калючых
Не сустракаць, павытаптаць канём.

Стаіць, як лунь, са споведдзю адзінай,
Да сонца прама рукі распасцёр:
— Якую ж я прынёс карысць Радзіме?
Я — боль яе, калючае асцё;

Я — ганьба, сорам, труп і недарэчнасць;
Я — прышч на целе роднае Зямлі;
Я — той, каго сурова судзіць вечнасць,
Каго і чэрці ў пекла не ўзялі.

Стаіць і сам сабе прысуд выносіць,
Бо ён адзін вярхоўны тут суддзя.
На ўсё гатовы, літасці не просіць.
І боль, і гнеў бушуюць у грудзях!..

Няма спакою ад гастрыту, астмы,
А тут, як ноч, тупая слепата...
Хоць кінься ў вір без музыкі,
без астраў...
Вакол адна нямая пустата...



А прага жыць вярэдзіць яго сэрца,
Як, можа быць, ніколі у жыцці!
Душа яго да зорак, сонца рвецца,
На крылах мар вясёлкаю ляціць.

— Як добра жыць здароваму на свеце
Са зрокам зыркім, свежай галавой!
Такому — друг і сонейка, і вецер,
Чмяліны рой у лузе над ракой,—

Сказаў Сцяпан і тут махнуў рукою,
Як быццам зычыў некаму дабра.
І зноў стаяў над ціхаю ракою,
З якою многа год ён сябраваў.

ЭПІЛОГ

Закончан сказ пра споведзь чалавека,
Пра горыч, боль загубленай душы.
Дзе, як заўжды, бездапаможны лекі,
Дзе вечны сум на памяці ляжыць.

Крычы, душа!
Хварэй за ўсё на свеце:
За лёс людзей, за поле, за лясы,
За ўсё, што ёсць на роднай нам планеце,
Штодзённа ў сонца літасці прасі.

Як многа мы і пішам, і гаворым,
Як мала робім для дзяцей Зямлі!
У горах кніг — садомы і гаморы.
А што, калі зрабілі для сям'і?

Хто з нас калі даў бліжняму параду?
Хто з нас каго у час ратаваў?
Хутчэй насустрач пойдзем казнакраду,
Чым сябру ў горы помач падаваць.

Хто з нас падаў руку свайму суседу,
Калі яго цягнула ў каламуць?
Хто ў час яго і ў роспачы наведаў?
З адвагаю памкнуўся рызыкнуць?

Мы грэх нясём да самае магілы,
Як схімнік крыж на стомленых грудзях.
Ад крыўд і мук мы ўсе патроху гінем:
І я, і ён — пастрыжаны манах.

А больш за ўсё — ад кпін і раўнадушша,
Ад горкіх слоў і чэрствасці глухой.
З дзіцячых год нас самалюбства душыць
І злюка-зайздрасць — маці ўсіх грахоў.

Калі ж усіх нас стрэне прасвятленне —
Заменіць цемру ранішняя бель
І дасць усходы добрае насенне,
Мы скажам дзякуй сейбітам — сабе?

І веру я, што час такі надыдзе!
Калі ж не верыць, дык навошта жыць.
Мы правядзём тады адзіны тыдзень
Выкарчавання чэрствасці,
іляжы!

1986 г.,
Д. т. «Іслач» — Мінск

# ТАЙМЫР

## УСТУП

Не, сябры,
Больш маўчаць не магу —
Не дае супакою сумленне.
Цераз сум-супакой і тугу
Добрым людзям нясу прасвятленне.

Больш паўвека таіў у грудзях
Невыносную горыч і муку...
Гэта споведзь душы і працяг
Тых пакут, што данёс я да ўнукаў.

Точаць сэрца і крыўда, і боль,
І вандалам стаптаная годнасць...
Знаю, словы мае — гэта соль
На параненым целе народным.

Ды інакш не магу, не магу,
Мой надзейны дарадца — сучаснік,
Для цябе я збярог праз пургу
Той агонь, што у сэрцы не гасне!

Хопіць з нас ашуканства, хлусні,
Слёз, крыві і магіл таямнічых.
Баязлівасць, навечна засні!
Ранак светлай надзеі нас кліча.

Усё скажу, не шкадуючы сіл,
Каб яно не вярталася болей.
Каб яно скрозь быллём парасло,
Як пустэча пясчанага поля!

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Прямо дороженька: насыпи узкие,
Столбики, рельсы, мосты.
А по бокам-то все косточки русские...
Сколько их! Ванечка, знаешь ли ты?

*М. Някрасаў*

## I. ДУДЗІНКА — НАРЫЛЬСК

### 1

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах»,—
Пад вагонам спяшаюцца колы.
І няспынна малоціць у дах
Спорны дождж, як і я, невясёлы.

Восень сцеле свой жоўты дыван
На ўсю тундру, пакрытую мохам.
Я імчуся праз золь і туман
З недаверам, з надзеяй, спалохам.

Я імчуся праз даўні падман,
Праз хлусню, крывадушнасць і жахі!..
Над сабою самім я тут — пан,
Той, што цудам збярогся ад плахі.

Я імчуся па шпалах-касцях
Рукатворцаў самой магістралі,
Праз балючыя раны жыцця,
Што суровымі сведкамі сталі.

Як раней, тут балоты вакол
І паўночныя карлікі-дрэўцы.
Тут эвенкам і ненцам з вякоў
Можна бегам ды песняю грэцца.



Тут ланцуг вачэй тундры — азёр
Упрыгожыў сабою прасторы.
Ад іх вее святлом, як ад зор.
І яны штось сябрам сваім дораць.

### 2

Трыццаць пяты.
Быў першы праход —
Намячалася лінія трасы.
Трыццаць сёмы — пачатак работ
І вяршыня няўмольнага часу.

Параходы адзін за другім
«Камсамольцаў» прывезлі у трумах,
І магутнай ракі берагі
Апынуліся ў гомане, тлуме.

Наступленне на тундру пайшло
У напрамку сцюдзёнай Нарылкі.
Край маўклівы прывеціў «паслоў»
Рыбай-соллю, сухою скарынкай.

Зазвінелі ламы, тапары,
І рыдлёўкі, і кіркі, і пілы!..
Да суровай, пуржлівай зімы
Уцяплялі палаткі-магілы.

Як адолець вякоў мерзлату?
Штурм —
яго не адкласці на потым.
Не адну пакарылі вярсту
Мы ў знямозе, у стоме, за дротам.

5 Зак. 2813

3

Надышла запалярная ноч,
Разам з ёю —
пурга з маразамі.

Цемра легла на трасу і збоч.
Навалілася немаччу замець.

А каманда: давай і давай.
Толькі дзе ўзяць знямогламу сілы?
І пайшлі «камсамольцы» у «рай»
Па чарзе па бязмежжы Расіі...

З дапамогай кастроў і ламоў
Побач з трасай капалі магілы.
Без прамоў адпраўлялі «дамоў»
Тых, хто ў тундры за працаю гінуў.

А было,
што закопвалі ў снег,
Каб «людзей не адцягваць ад працы».
Нават сёння іх бачу я ў сне
І крадком па нябожчыках плачу...

Колькі шпалаў,
мы столькі галоў
Тут паклалі на пройдзенай трасе.
Час прыйшоў —
крывадушнасць далоў!
Трэба ўсё расказаць аб тым часе.

Нам туманіў галовы падман,
Мы карміліся догмамі культу.
Быў на смерць і на здрадніцтва план,
І заўсёды стаяў ЁН ля пульта.



Мы маліліся волі ЯГО
І ЯГО «добразычлівым дзеям».
Потым гінулі ў гурбах снягоў.
Смерці ў вочы штодзённа глядзелі.

## II. КАЕРКАН

1

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах», —
Раўнамерна выстукваюць колы.
Цемра, цемрач вакол, немата...
Успаміны і раняць, і колюць...

Вось паходняй мільгнуў Каеркан,
Дзе, як кропкі, чарнеюцца штольні.
Колькі душ ён злавіў на аркан!
Колькі зэкаў ён зжэр, неспатольны!

Качагарка паўночных шырот,
Неад'емная частка Нарыльска
Корміць вугалем домны і флот
На адлегласці дальняй і блізкай!

Вунь дымяць тэрыконаў рады,
Што ўзняліся, нібы піраміды.
То схаванага рабства сляды,
Незямныя, як здані-прывіды.

У іх целе — пакуты людзей,
У іх лоне — бясконцыя смерці.
Гэта помнікі даўняй бядзе,
Тым, што й сёння трывожаць нам
сэрцы.

Прад вачыма стаяць сябрукі,
Сярод іх —
незабыўны Мікола.
Хай сабе і не ўсе землякі,
Ды вязлі ж нас адною ракою.

Іх усіх прытулілі капры
І пагоркі бязмежнае тундры.
Іх таптвлі у пімах «зубры»,
А з партрэтаў пасмейваўся «Мудры»...

2

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах»,—
Вытанцоўваюць колы чачотку.
Я імчуся па даўніх слядах,
Абганяючы кпіны і плёткі!..

Збоч агнямі мільгнуў Алыкель [1]
І схаваўся ў асеннім тумане!..
Еду я не з далёкіх зямель,
Я — збіральнік пакутніцкай дані.

Рушыць плаўна электрацягнік,
Непадобны на вузкакалейны.
Той маленькі цягнік недзе знік,
Не пабачыў свой год юбілейны.

Па той трасе, усланай касцьмі,
Скрозь пакладзены новыя рэйкі.
Тых, хто клаў, ужо звалі «людзьмі»
З крывадушнай усмешкаю нейкай.

[1] Алыкель — аэрапорт г. Нарыльска.



То быў новы «рэкруцкі набор»
«Камсамольцаў» —
пасля Перамогі.
І над імі вісеў той тапор...
Іх таксама было тут замнога.

Але трошкі было ім лягчэй:
Скрозь былі пратаптаныя сцежкі.
Іх не так ела сцюжа начэй.
Не гублялі у прыцемках вешкі.

Хоць пурга і пякучы мароз
Іх таксама трымалі «ў абдымках»,
І каблы [1] «частавалі» да слёз
Ёмкім дрынам [2] і летам і ўзімку.

3

Тут я ў цёплым вагоне сяджу,
А здаецца, што там — разам з імі...
Зноў у Дантава пекла гляджу,
Размаўляю з сябрамі былымі.

Прад вачыма — і крыўда, і боль,
І папрок, што іх хутка забылі:
— Ці ж не разам ішлі, нібы ў бой,
Мерзлату не з табою кайлілі?

Ці ж не разам нас ела цынга?
Ці ж не разам каналі на снезе?
Ці ж не разам аўчар нас цягаў
У карчатым, прыземістым лесе?

[1] Каблы — лагерныя падганялы.
[2] Звычайная палка.

Ці ж не разам саджалі ў кандзей
За адмову даваць сваю норму,
Трыста грамаў давалі на дзень,
Каб трымалі галодную форму?

А цяпер ты у цёплым купэ
Па касцях нашых рушыш экспрэсам!..
Штосьці ціха бубніш сам сабе
І праз вокны любуешся лесам.

Каб ты знаў, як балюча трываць,
Калі хрустаюць косці ад колаў!..
Хай цяпер мы не людзі —
трава,
А цяжар гэты ціснe і коле...

Ты прыслухайся — стогне зямля,
Плачуць дрэвы на нашых магілах...
Незагойныя раны смыляць
Тых, хто ў муках зламыў свае крылы.

4

Што магу я сказаць у адказ
На папрокі сваіх «саслужыўцаў»?
Я пра гэта ўжо думаў не раз.
Ці ж жывому ў магілу лажыцца?

Дзе, калі я і чым саграшыў
Прад былымі сваімі сябрамі?
Можа, тым, што застаўся жывым —
Здолеў вырвацца з пекла за браму?

Нейкім цудам мяне абышла
Крыважэрная цётка з касою.
Не мяне, дык другога знайшла
І скасіла, як пырнік з расою.



Так было ў трыццаць сёмым крутым:
Не цябе, дык другога там схопяць
І яшчэ звінавацяць у тым,
Што табе ў яме месца не хопіць.

Я і сам мо дзесяткі разоў
Паміраў на заснежанай трасе
Ад сімбірнай пургі, маразоў
І ад здзекаў, хоць выжыць стараўся.

Паміраў ад галодных гадоў,
Ад хвароб і ад крыўды балючай.
Я тады да ўсяго быў гатоў...
Мне бінты замяняў дрот калючы.

Ратаваў я сябе ад цынгі
Часнаком палявым, сціплай хвояй.
А ад грыпу і розных ангін —
Багуном і марошкай сухою.

Я збіраўся зрабіць і замах —
На сябе думаў рукі накласці.
Ды заўжды не рашаўся, як птах:
У грудзях недзе білася сэрца.

...«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах», —
Быццам еду ад Воршы да Мінска.
Дзесьці будуць Валёк і Талнах,
А спынюся я лепш у Нарыльску.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

...Видишь, стоит, изможден лихорадкою
Высокорослый, больной белорус:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках;
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах;
Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо дня в день налегала весь век...

*М. Някрасаў*

## I. НАРЫЛЬСК

### 1

Ты — мой боль, мая горкая памяць,
Мой трывожны, бязрадасны кут.
Ты — прамень, што бязлітасна паліць,
Тоіць процьму і мук, і пакут.

Хтосьці жартам «Паўночнай Пальмірай»
Ахрысціў цябе, горад-байструк,
На Таймыры зрабіў камандзірам
Мазалёвых, нявольніцкіх рук.

І цябе сёння славяць паэты,
А вучоныя пішуць тамы.
Толькі сказ мой зусім не пра гэта —
Не пра скверы, заводы, дамы.

Сказ мой гэты пра тых «піянераў»,
Хто з нуля тут усё пачынаў.
Хто, каб выжыць, у выпадак верыў,
А не марыў хадзіць у чынах.

Сказ пра тых, хто давіўся скарынкай
Ды смярдзючаю воблай, як соль,



Быў са смерцю заўжды ў паядынку,
Каго нянычылі замець і золь.

Ты маўчыш, але ўсё разумееш,
Вінавата у твар мне глядзіш.
І цябе, дружа, джалілі змеі,
Запаўзаючы ў цёплы гладыш.

Лёс даўно парадніў нас навечна,
Мы з табою — браты-сваякі.
З тых далёкіх часоў хуткацечных
Я паверыў, што мы — землякі.

Мы ад дзей і падзей неад'емны,
Пра якія хачу расказаць,
А таму будзем шчыра ўзаемна
Насцеж душы свае адкрываць.

### 2

Вунь грукочуць Малы і Вялікі [1],
Што даюць нам і нікель, і медзь.
Іх падмуркі — на костках шматлікіх,
Дзе і я «не прыземіўся ледзь».

Нібы ў пекле, ў пячах электрычных
Ходзіць ходырам дзіўны метал.
Звонку ўсё яно тут паэтычна.
Ёсць усё, каб у марах лятаць.

А калі рызыкнеш заглянуць ты
У прадонную іх глыбіню,
То убачыш не ружы — пакуты
І раз'юшаны наступ агню.

---

[1] Так раней называліся медны і нікелевы заводы Нарыльска.

Колькі зжэр ты, пражорлівы Молах,
Коксу, руд, барадатай «камсы»!
Праглынуў сотні ў зрэб'і і голых.
У табе змоўклі іх галасы...

Ты яшчэ да свайго нараджэння
Паказаў свой характар круты.
І пасля ўжо — ў дзіцячым адзенні —
Нас даводзіў да слёз, нематы.

Калі быў немаўлём — катлаванам,
Дзе нязмоўкла грымелі ламы,
Нам наносіў смяротныя раны,
А нязмоглых няшчадна граміў!..

Толькі ведаў ты — планы ды планы...
Да рабоў сваіх справы не меў.
Адыходзілі ў «рай» ветэраны...
Ты ж як быццам не бачыў, нямеў.

То было крыважэрнае пекла
На ўсіх дзевяць няўмольных кругоў.
Не, галоў там нікому не секлі —
Там хапала тайгі і снягоў.

«Аддавалі канцы» паступова —
«Сваёй смерцю» да продкаў ішлі.
Да айцоў не хадзілі на споведзь,
Крыж сумлення мы ў сэрцы няслі.

Перад тым, як пакінуць свет белы,
Вымаўлялі два словы:
«ЗА ШТО?»
Я і сам паўтараў іх нясмела
Неаднойчы — разоў, можа, сто.



## II. ГАТЭЛІ

### 1

На пагорку стаю, небарака,
І гляджу прама Молаху ў твар.
А вось збоку — былыя баракі,
Пра якія забыў «гаспадар».

Іх я ставіў і жыў напачатку,
Спаў на голых, сырых кругляках.
Тут сушыў на «буржуйцы» пальчаткі
І слязу сваю па земляках.

Тут стаяў у чарзе па баланду,
У кандзей неаднойчы трапляў.
Тут лекпом [1] выдзіраў мае гланды
І адразу ў забой адпраўляў.

Я адгэтуль штодзённа пад дулам
Да аб'ектаў хадзіў у страі.
Тут схаваў я пару маладую,
Боль і крыўду у сэрцы таіў.

А цяпер тут надзейна жыхарацъ,
Дарагі мой чытач, парсюкі.
Тут іх кормяць, і рэжуць, і смаляць —
Ну, вядома, ўжо лёс іх такі.

Паміралі і мы, толькі «самі»,
Пасля голаду, гвалту і мук.
А вось рушкі да самага сала
Бестурботна жывуць з чужых рук.

[1] Лекпом — лекарскі памочнік, лагерны фельчар.

А фінал, што у рушак, што ў зэкаў —
Беспрасветная ноч, забыццё...
Так было яно, мабыць, спрадвеку
І дайшло да нянавісных дзён.

2

І другі вось пазнейшы «палац» мой,
Адкуль тупаў штодзень у дэпо.
Тут былі калісь ложкам палаці,
Дзе ад стомы валіўся снапом.

Ён крыху раскашнейшы, «сучасны»:
Быў накрыты ўжо дранкаю дах.
Ён нагадваў кароўнік калгасны —
Не барак па тым часе, а гмах.

Нам жылося не горш ад каровы:
Побач кухня і свой туалет.
Не так страшна было ўжо суровай
Той пургі, што заносіла след.

Часам кніжкі чыталі пра шпікаў
І гулялі мы ў карты на хлеб,
Як жадаў таго бацька Вялікі,
Для надзённых душэўных патрэб.

Адным словам, барак быў што трэба:
Было ўдосталь жулля і цягла.
Нам жылося, што птушкам пад небам,
Нават здужыць цынга не змагла.

Нездарма ж пасля нас неўзабаве
Стаў барак той жыллём для кароў.
Хай пацвердзіць даярка любая —
Мы жылі, як чарвяк пад карой.



Тут цяпер племянныя «бурэні»,
Што даюць па вядру малака.
Ім зайздросцяць ласі, і алені,
І цудоўных пясцоў талака.

У такой вось «раскошнай кватэры»
Я пражыў аж чатыры гады!
Быў барак той нам лепшым гатэлем,
Ён запомніцца мне назаўжды.

## III. ЦЭЦ

1

Дзень і ноч і гудзе, і грукоча
Сэрца горада — гулкая ЦЭЦ —
Сумнай Поўначы зыркія вочы
І пакутлівай працы вянец.

Хто сягоння з табой не сябруе,
Пакароны глухім забыццём!
Кажуць, ты ўсе грахі нам даруеш,
Адараючы новым жыццём.

А вось я цябе помню інакшай,
Не такой,
якой сёння ты ёсць.
Ты схавала нягоды ўсе нашы,
Нашы мукі і горкую злосць.

Я запомніў цябе з катлавана,
У якім ты засела навек.
Бо шчымяць тыя даўнія раны,
Ад іх стогне яшчэ чалавек.

Мы ламамі па вечнай мярзлоце
Лупцавалі тут да забыцця...
На пякучым марозе, у поце
Пазбаўляліся часам жыцця.

Каб асіліць, кастры разводзілі,
Толькі дроў не хапала заўжды.
Ад сырых круглякоў дым кадзіліў
І спыняў гаркатою наш дых.

Сантыметры зямлі непрыступнай
Вырашалі далейшы наш лёс.
Кожны дзень быў цяжкім, а наступны
Двойчы больш цяжар з сабой нёс.

## 2

Нас страчалі усіх «па-сяброўску»,
Не глядзелі на званне і чын.
«Ваяваў» з мерзлатой Ракасоўскі,
Памагалі яму масквічы.

Ён наперадзе быў з важскім ломам,
Быццам біў самураяў наноў.
Ён, вядома, магутны, не зломак,
Ды чаго ж лёс сюды яго звёў?

А вось побач з рыдлёўкай хлапчына,
Лахманамі, як рызай, трасе —
Сам бязвусы Давід Кугульцінаў,
Што застаўся жывым балазе.

А паводдаль — з кіркамі у зрэб'і
Рота гнеўных «латышскіх стралкоў»,
Што нікому цяпер непатрэбны,
Акрамя вось такіх «землякоў».



Сотні, тысячы ў зрэбным адзенні —
Паляводы, ўрачы, песняры —
Прад вачыма мільгаюць, як цені
Ля падножжа бязлеснай гары.

Колькі з'ела такіх гэта чрэва
Да твайго нараджэння на свет!
І прайшлі яны ўсе цераз цені,
Як і сам небарака-паэт.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

И был народ врагом народа,
А он один народом стал.
*А. Твардоўскі*

## І. НАРЫЛЬСК — ТАЛНАХ

### 1

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах», —
Мчыць цягнік у глыб тундры суровай!..
Зноў блукаю па дальніх гадах...
Думкі кружацца, кружацца роем...

Як раней, паўстаюць у вачах
Першы насып і першыя рэйкі...
Тое ўсё, што пранёс на плячах
З невядомай трываласцю нейкай.

Па баках — неабдымны абсяг,
Не заўсёды даступны — таемны.
Зноў я еду па брацкіх касцях,
І са мной едзе боль неад'емны.

Зноў я чую і скаргі, і стогн,
І малітвы, і просьбу нямую...
Тут ляжаць яны шчыльным пластом
Замест шпал і па волі сумуюць...

Разам з імі плячо у плячо —
З катлаванаў усіх ветэраны,
Што калісьці ішлі з Ільічом,
За што тройчы былі катаваны.

2

А загнаў іх усіх у нябыт
Той, хто быў для нас «геніем чыстым»,
Хто цяпер на палову забыт,
Хто лічыў сябе першым марксістам.

Трыццаць год ён стаяў ля руля
Неабдымнае нашай дзяржавы.
Ён лічыў сябе за караля.
Перад ім тады ўсе мы дрыжалі.

Ён мільёны паеў, канібал.
І мільёны скалечыў навечна...
Чалавека лічыў за раба
«Праваднр наш і сябар сардэчны».

Адабраў у людзей гэты пан
І свабоду, і веру-надзею.
Так не мог бы зрабіць нават хан.
Так ніколі не робяць зладзеі.

Адлучыў ад зямлі назаўжды
Хлебароба, хто жыў з ёю вечна.
Выдумляў за «уздымам» «уздым»,
Аб'яўляў за «сустрэчным» «сустрэчны».



Ён прыносіў і голад, і мор
(Не забудзецца нам трыццаць трэці).
Апускаў і на шыю тапор —
Частаваў нас бязлітаснай смерцю.

Ён размахваў нябачным мячом,
Ад якога ніхто не ўратуе.
Прыкрываўся ж заўжды Ільічом
І натуру знішчаў, і культуру.

Разам нішчыў і творцаў яе
Ці марыў у такіх вось Нарыльсках.
Прапаноўваў «ідэі» свае,
Што з навукай не зналіся й блізка.

Пэўна, хоціць варочаць той труп,
Ад якога нясе нам смуродам.
Ён ляжыць, дагнівае, як слуп,
Ён — закляты уласным народам!

## II. МАРОШКА

1

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах», —
Выгаворваюць колы вагонаў.
Я сяджу, як зняволены птах
І праз шыбы гляджу на адхоны.

Прыгадаўся нярадасны час
І падзея ля гэтых адхонаў,
Калі секлі нас прама з пляча
І лічылі ўсё гэта за норму.

Мірны год сорак пяты ішоў.
Быў пачатак спякотнага жніўня.
Гналі нас міма ціхіх лясоў
Да пагорка, размытага ліўнем.

Дождж адхоны злізаў напавал,
Забуціў і кюветы, і рэйкі.
Нам задача: прыбраць той завал,
Не чакаць дапамогі там нейкай.

Цэлы дзень — ад цямна да цямна —
Хабацілі на кожным адхоне.
Чуўся грукат вакол, гамана
Па змяістым уздоўж перагоне.

Вось аб'яўлены быў «перакур»:
Баланда прыбыла на падводзе.
Кожны прагна працягваў руку:
Быў двайны апетыт на прыродзе.

2

Мы сядзелі і елі цішком
Неразлучную «смачную» сечку.
Пасля хтось спрабаваў — у «ачко».
Брыгадзір перашкодзіў — асечка.

Хто курыў, хто драмаў на вачах,
Хто расказваў услых анекдоты.
Гаманіў наш часовы прывал.
Быццам мы і не мелі турботаў.

А вакол цішыня і спакой,
Зелень, кветкі паўночнага царства.
Процьма ягад — бяры іх рукой —
Залатое прыроды юнацтва.



Скрозь марошка, а як яе ўзяць?
Без дазволу аховы не ўхопіш.
А ахова — туды яе маць! —
Як вавёрачку можа ухлопаць,

Калі толькі руку працягнуць
Па той бок забароненай зоны.
Мы і гэтаму зналі цану —
Нам жыццё дыктавала законы.

Але ўсё ж спакусіла мана
Майго сябра — Царова Міколу.
Ён не верыў, што грош нам цана,
І палез за марошкай рукою.

Не паспеў забаронены плод
Адшчыпнуць, праглынуць яго з прагай,
Як адчуў ці то горыч, ці лёд...
І заліўся крывёй бедалага...

Мы ледзь чулі, як шчоўкнуў затвор —
І раздаўся пагібельны выстрал.
Апусціўся Мікола на дол,
І ў вачах яго стала імглiста...

Бо на Поўначы стрэл, як шчаўчок.
Ён здаецца дзіцячай забавай.
Чалавеку ж цана — пятачок
Сярод лагерных «маршалаў-баяў».

## III. ПАХАВАННЕ ЎЦЕКАЧА

### 1

Неўзабаве на месца здарэння
Прыляцеў «надзвычайны патруль».
Вымушала «ляцець» падазрэнне,
А ахвяра і мы — гэта нуль.

Падазрэнне на помсту, адплату —
Над забойцам прысуд-самасуд.
Не шукаў там ніхто вінаватых,
Не кранаў узаконены бруд.

Вось з'явіліся «эксперт» і «следчы»,
Падаспеў «ратавальнік»-лекпом.
Тузанулі ахвяру за плечы,
Пастаялі над мёртвым рабом...

Потым мерылі штосьці рулеткай
Побач з целам, паспеўшым астыць.
Падпісаліся «эксперт» і «сведкі»
Пад фальшыўкаю сказаў пустых.

Опер-следчы з узнятай рукою
Цыркнуў слінаю ля мерцвяка:
— Не хвалюйцеся, ўсё па закону:
Ваш таварыш хацеў уцякаць.

Па загаду крутога начальства
Мы ляжалі галовамі ўніз.
Пазіралі на следчых не часта:
Быў знаёмы нам катаў капрыз.

А калі ўжо закончылі «следства»,
Замянілі, ўзмацнілі канвой,



Нам падняцца дазволілі з месца,
Ды маўчаць, не круціць галавой.

Потым новы загад: вырыць яму
І нябожчыка ў ёй пахаваць.
Не адзін прыгадаў тады маму,
Што магла нам усё дараваць.

### 2

На пагорку, на месцы забойства,
Дзе марошка палала агнём,
Там, дзе вырадак прагнуў геройства,
Захапляўся тым здрадніцкім днём,

Мы хавалі свайго пабраціма
Без труны, без вянкоў, без прамоў.
У рагожку яго закруцілі
І адправілі з гэтым «дамоў».

Перад гэтым, падумаўшы трошкі,
Мы парушылі сябра спакой:
«Далі» ў рукі куст спелай марошкі,
Бо жадаў бедалага такой.

З ёй у руцэ ён развітваўся з намі
І з усім, што буяла вакол.
Не пабачыцца больш ні з сябрамі,
Ні з бацькамі ва векі вякоў...

...Як хавалі,
ніхто не заплакаў,
Кожны з нас там трымаўся як мог.
І было гэта добрай адзнакай
Нашай волі і душ перамог.

А калі закапалі і селі,
Не адзін заліваўся слязьмі.
І хацелі б таго, не хацелі —
Мы звычайнымі сталі людзьмі.

Працаваць жа ў той дзень больш
не сталі —
Гэта быў калектыўны пратэст.
Не прымусіў бы нас нават Сталін,
І прад ім не падняліся б з месц.

І застаўся завал напалову...
І кюветаў, і рэек, і шпал.
...Гналі ў зону нас позняй парою.
У ноч тую ніхто з нас не спаў.

## IV. ВАЛЁК

### 1

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах»,—
Не змаўкаюць калёсныя рытмы.
Зноў праносіць мяне па гадах
Мой цягнік клапатлівы і спрытны.

Вось драўляны пасёлак Валёк —
Бацька ўсіх збудаванняў таймырскіх.
Ён і зблізу відзён, і здалёк,
Даў пуцёўку ў жыццё і Нарыльску.

Тут жылі і жывуць рыбакі,
Паляўнічыя, аленяводы.
На ўзбярэжжы някідкай ракі,
На вачах некранутай прыроды.



Тут усё неабходнае ёсць —
У краіне пясцоў і аленяў.
Не пакрыўдзіцца ветлівы госць,
Хоць не ўбачыць ні нерп, ні цюленяў.

Свой вакзал, гідрааэрапорт
І рачная звычайная прыстань,
Рыбзавод і маторачны «флот»,
Неабходны для розных турыстаў.

### 2

Тут высаджвалі першы дэсант
«Піянераў» Паўночнай Магніткі.
Гэта ён быў тады адрасат,
Што цягнуўся па беразе ніткай.

Адрасат і машын, і людзей,
Алебастру і сушанай воблы...
Па паветры штодзень, па вадзе
Ўсё плыло, нібы ранішні воблак.

А пасля на аленях вязлі
За пятнаццаць цяжкіх кіламетраў...
У пургу, маразы, у разліў
Пакаралі таймырскія нетры.

Тут вось першыя рэйкі ляглі
Той праслаўленай вузкакалейкі.
А рабілі ж мы ўсё як маглі,
З патаемнаю сілаю нейкай.

І адсюль пайшоў першы цягнік
З першым грузам для новабудоўлі.
Той маленькі вакзал ужо знік,
Адкуль везлі на мукі бяздольных.

Вырас новы вакзал-прыгажун
Па плячу ўжо шырокакалейнай.
Я стаю, неадрыўна гляджу
І прыгадваю час безнадзейны...

Раптам штосьці кальнула ў грудзях,
Нечакана абліўся я потам...
Бо згадаў я сяброў-рабацяг,
Што сышлі беззваротна ў мярзлоту...

Можа, хопіць вярэдзіць душу,
Дастаткова ёй суму і болю.
Я паўсотню гадоў іх нашу,
Мо яшчэ і не здолею болей.

Лепш закончым нялёгкі маршрут,
Застаецца не больш перагону.
Хопіць мне тых сардэчных пакут
І таго неабдымнага гора.

## V. ТАЛНАХ

Братья, вы наши плоды пожинаете!
Нам жа в земле истлевать суждено...
Все ли нас, бедных, добром поминаете
Или забыли давно?

*М. Някрасаў*

### 1

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах,
тах-тах-тах»,—
Прадаўжае цягнік сваю песню.
Вунь відзён запаветны Талнах
З мітуснёю і выглядам веснім.



Еду я да яго ўпершыню,
Не трапляў тут у вахценны карцэр.
Калі я «набіраў вышыню»,
Ён не значыўся нават на карце.

Горад гэты зусім малады,
Існуе ўсяго чвэрць толькі веку,
Хоць зрабіўся кладоўкай руды,
Без якой не пражыць чалавеку.

Пачынала жыццё тут братва —
Без «намордніакаў» — розных узростаў.
У страі не хадзілі па два,
І ўжо ззаду ніхто не падхлёстваў.

Іх кармілі не воблай, як нас,
Не магарай, не сечкай, не сояй.
Не чуваць было брыдкіх абраз.
І канвой ім вачэй не мазоліў.

У інакшых бараках жылі,
Кожны меў з іх спяцоўку, зарплату.
Праўда, мелі й яны мазалі —
Знакамітай будоўлі салдаты.

### 2

Горад буслам на палях стаіць,
Непаўторны, па-простаму строгі.
Тут не ўбачыш будынкаў старых.
Ды затое ж відаць яго «ногі».

Доўгіх вуліц прамыя рады
Упрыгожваюць казачны горад.
Не цвітуць тут, канечне, сады,
Ды ніхто тут не знаецца з горам,

А паводдаль адна за адной
Уздымаюцца шахты капрамі.
З іх у кожнай — глыбіннае дно,
Дзе нярэдка здараюцца драмы.

Там руда —
залаты капітал,
Наша слава, багацце і гонар.
Мы з яе выплаўляем метал,
Што не знаўся з пакутамі, горам.

Мы цяпер ганарымся рудой,
Трох заводаў цудоўным металам,
Творым гімны «пары маладой»
І багаццям зямным мадрыгалім.

А ці ўспомніў хто-небудзь хоць раз,
Жывучы бестурботна пад сонцам,
Той суровы,
бязлітасны час
І зняволеных першапраходцаў?

Ці згадаў хоць самому сабе
Той кашмар і людскія пакуты —
Ўсё, што сёння за сэрца шкрабе,
Тых, хто цудам застаўся раскутым?

Ці прымусіў сябе прыгадаць
Нізавошта сяброў катаваных,
Што асуджаны вечна ляжаць
У кюветах, на дне катлаванаў?

Пэўна, не. Мы забылі пра ўсё.
Бо яно ўсё смугою закрыта.
Мы сябе па Эдэму нясём,
Дзе ўсё белымі ніткамі шыта.



Развучыліся бачыць жыццё,
Разумець як належыць падзеі.
Мы задраўшы галовы ідзём
Невядома куды, без надзеі.

Мы на словах «за праўду стаім»,
А на справе — ў хлусні патанаем.
Што нясём мы нашчадкам сваім?
Вочы прыкрай маной прыкрываем.

Не, не будуць яны даравацъ
Нам за нашу змяю-крывадушнасць.
Мы згніём, як у слоту трава,
Час-віхор нашы душы пасушыць.

Не, адплаты не можа не быць:
Час бязлітасны, бескампрамісны.
Зможа ўсё ён, як ёсць, ацаніць,
Бо судзіць будзе горкая існасць.

Ну, а мне развітацца пара
Ўжо з Талнахам, Вальком
і Нарыльскам.
Будзе хуткасць цягнік набіраць,
Мчаць між могілак,
труб-абеліскаў!..

ЭПІЛОГ

Вось і ўсё, што даўно набалела,
Не давала спакою нідзе,
Ад чаго мае сэрца смылела.
Быў я доўга на ўласным судзе.

Неяк зноў завярэдзілі раны,
Што прынёс недарэчлівы час.
Не, забыць усё гэта нам рана,
Бо стаіць яно вечна ў вачах.

На кавалкі тады нас не секлі,
Мы цалюткімі клаліся ў склеп.
Як Вергілій, праходжу па пекле.
Боль малоціць памяці цэп.

Колькі іх недарэчліва «грэшных»,
Прыгаворанах «Мудрым» на смерць!
На прасторах бязмежных і снежных
Давялося ім доўга гібець.

А пасля метадычна, па плану
Іх знішчалі, нібыта клапоў:
Трону трэба не людзі, а сплавы,
Што здабыты рукамі рабоў.

Праклінаю ЯГО на тым свеце
І ўсю борздую хеўру ЯГО!
Нават тлен іх развее хай вецер
Па зямлі,

па сумётах снягоў!

...Вось сказаў, што таіў,

і паверце,
Дарагія мае чытачы,
Палягчэла на раненым сэрцы.
Можна смела ісці на спачын.

Нарыльск — Мінск,
1975—1987 гг.



## ЗМЕСТ

### НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ



### МІНУТЫ РОЗДУМУ І ПАМЯЦІ СУРОВАЙ

ДАРОГІ БЛІЗКІЯ, ДАРОГІ ДАЛЬНІЯ



ПАЭМЫ



**Пруднікаў П.**

П 85 Позні‌я ягады: Вершы, паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 158 с.

Прудников П. Поздние ягоды: Стихи, поэмы.
ISBN 5-340-00472-4.

Складаны і цяжкі жыццёвы шлях прайшоў лірычны герой вершаў Паўла Пруднікава. Ён зрадніўся з многімі куткамі нашай краіны, але больш за ўсё любіць зямлю сваіх продкаў — Магілёўшчыну.

У аўтабіяграфічнай паэме «Таймыр» расказваецца пра жорсткую несправядлівасць сталінскіх рэпрэсій, пра цяжкія ўмовы жыцця зняволеных.

Паэма «Запозненае прасвятленне» прысвечана барацьбе за цвярозасць і здаровы быт.

П $\frac{4702120202-043}{М\ 302(03)-90}$ 58—90 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

Прудников
Павел Иванович

**Поздние ягоды**

*Стихи, поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

Пруднікӑў
Павел Іванавіч

**Позні̇я ягады**

*Вершы, паэмы*

Рэдактар *Х. Д. Жычка*
Мастак *У. І. Сытчанка*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Л. М. Маслоўская*

ІБ № 3267

Здадзена ў набор 11.08.89. Падп. да друку 12.12.89. АТ 06411. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,85. Ум. фарб.-адб. 5,85. Ул.-выд. арк. 5,17. Тыраж 2200 экз. Зак. 2813. Цана 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.